# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 10 (206) (кастрычнік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus


**Змест**



**АКТУАЛІІ**

# Гандляры і спажыўцы



Віктар ЛЕДЗЕНЕЎ



Жыў-быў горад (ці краіна). Каму як больш падабаецца. Людзі там жылі самыя што ні ёсць звычайныя, не без недахопаў, вядома.

Так, драбяза такая-сякая здаралася, не больш таго, можна сказаць, бытавая. З кім не бывае. Але, у асноўным, жыццё ішло ціха і спакойна. Як раптам у гэтым горадзе (ці краіне) аб'явіўся Гандляр. Хто ён і адкуль прыбыў, не ведаў ніхто. Адкрыў краму. Не які-небудзь супермаркет, а самую звычайную, штосьць накшталт нашых «Тысяча драбязы». Самае галоўнае ў яго гандлі было тое, што кожны знаходзіў у краме менавіта ўсё, што хацеў мець больш за ўсё ў жыцці. Самыя патрэбныя рэчы.

І пайшоў гандаль. Быццам бы на самых выгадных умовах — за паўкошту ўсялякія рарытэты можна купіць. Але з адной умовай: сёе-тое потым зрабіць трэба будзе.

І патрапілі жыхары горада ці краіны на гэтую прынаду. Людзі плацілі мала, атрымлівалі тавар, можна сказаць, на халяву, ды і даручэнні Гандляра былі простымі і нескладанымі. Кожны іх выконваў ледзь не ў сваё задавальненне.

А гандляр быў далёка не прасцяк, ён быццам бы заўсёды дапамагаў людзям, але рабіў гэта так, што выклікаў зайздрасць: дапаможа аднаму, але ў накладзе іншы. Як у задачцы з двума трубамі: недзе дадасца, а недзе паменшыцца... Быццам бы драбяза, але страсці разгарэліся не на жарт, дайшло і да забойства...

Страшна стала людзям, а зразумець не могуць, — жылі сабе ціха, мірна, як раптам такія няшчасці. Справа дайшла да таго, што адзін жыхар наогул захацеў падарваць цэлы горад з усімі яго жыхарамі. І падарваў бы...

Я не выпадкова ўсюды дадаваў прыпіску ў дужках пра горад (краіну). Горад жа маленькі, яго цалкам падарваць можна, а вось калі краіна вялікая? Аказалася, што і краіну можна. Нават не проста вялікую, а велізарную. І такая знаходзіцца зусім побач з нашай, можна сказаць — суседская братэрская краіна. І з'явіўся і ў ёй свой Гандляр. З нейкага іншага горада ў сталіцу прыехаў. І стала жыць лягчэй і весялей. Рэч у тым, што краіна была жудасна багатай. Усё ў ёй было: нафта, газ, золата, жалеза, алюміній, алмазы, нават звяроў было незлічона, а ўжо зямлі і лесу — хоць заваліся... Ва ўсім гэтым мелі патрэбу іншыя суседзі-краіны, якім не хапала сваіх радовішчаў. І пачаў Гандляр паспяхова прадаваць гэтыя багацці; грошы пацяклі ракой. Валюта стала моцная, прыбыткі павышаліся, у некаторых лепшых сяброў Гандляра проста да неймаверных памераў. Але і шараговым жыхарам таксама сёе-тое перападала, так што любілі грамадзяне свайго Гандляра шчыра, пакуль ім ад гэтых багаццяў сёе-тое дасталася.

Гандляр ведаў, што ў яго краіне многіх патрэбных рэчаў няма, асабліва тых, якія можна есці, але ён іх купляў у іншых краін, дзе не было карысных радовішчаў, але дзе добра ўмелі рабіць гэтыя самыя патрэбныя рэчы. І здавалася, што менавіта такі шлях прывядзе да ўсеагульнага шчасця і дабрабыту. Мала таго, самыя блізкія суседзі пачалі зайздросціць і паспрабавалі ўвесці такую ж дабратворную сістэму ў сябе. Адны атрымлівалі шмат (гэта не бяда), іншыя паменш (таксама задаволеныя), астатнія падзялілі тое, што заставалася. Заставалася зусім няшмат, а жыхары гэтай краіны былі людзьмі ганарлівымі, і ім уся такая сістэма (як у суседзяў) моцна не спадабалася. Выйшлі яны на вуліцы і выкінулі свайго (больш дробнага) Гандляра з краіны. Тады гэта не спадабалася вялікаму Гандляру. Як, маўляў, гэта так, бо мая ж краіна добра жыве і жыхары ўсім задаволеныя, чаго ж там тыя (такія-сякія) яшчэ хочуць? І вырашыў пакараць. У іх там (у суседзяў) нейкі паўвостраў дрэнна ляжаў, давай забярэм... І забраў. Тавары далёкім суседзям прадаваць пачаў танней, чым блізкім. А свае жыхары ў захапленні: вось які наш Гандляр, нікога не баіцца, да нашай найвялікшай краіны яшчэ кавалачак дадаў. Радасць абсалютная.

Задаволеныя ўсе, але не сам вялікі Гандляр. Што ў іх там яшчэ дрэнна ляжыць смачнае? Забраць бы яшчэ, лішнім не будзе... Сам Гандляр у тыя справы, як ён сам усіх запэўніваў, не ўмешваўся. Гэта, кажа, усё яны, нейкія невядомыя чалавечкі робяць, быццам бы з Марса, а можа, і яшчэ адкуль...

А далёкія суседзі мелі вочы не тое каб на патыліцы, а нават у космасе, усё бачылі, і ім гэта моцна не спадабалася. Як у тым напачатку згаданым маленькім горадзе адзін чалавек адразу падазраваў Гандляра ў несумленнай гульні. Звалі яго проста — Шэрыф. А тут шэрыфаў аказалася значна больш, і ім паводзіны Гандляра таксама здаліся звычайным махлярствам, яны пачалі выхоўваць яго. Так, спачатку павольна, не розгамі, а ўгаворамі. Але вялікі Гандляр не сунімаўся, бо яго ўсе жыхары падтрымлівалі. Яны не разумелі, што ўсе гандлёвыя шчадроты і падарункі нездарма рабіліся, а менавіта для такіх вось сітуацый. І дружна закрычалі: «Ату іх, супастатаў!». І пайшлі (некаторыя нават добраахвотна) расчышчаць Гандляру дарогу да яго любімага паўвострава. А Гандляр успомніў пра вялікую Кнігу — Біблію. Там (ён не чытаў усю кнігу) недзе было сказана, што левая рука не ведае, што робіць правая. І адной рукой пачаў даваць сваім і чужым усялякія там танкі, гарматы і ракеты, а другой — пісаць паперы, што не ведае ён, маўляў, што там робяць яго ўдзячныя грамадзяне. І за што яны там паміраюць.

Жыхары краіны, атрымаўшы жаданыя рэчы накшталт зарплаты ці пенсій, не зразумелі, што за гэтыя патрэбныя рэчы хутка давядзецца расплочвацца ўтрая даражэй, і не толькі грашыма і прадуктамі, але і жыццямі... Шэрыфы з усяго свету і так і гэтак яго ўломвалі, але нічога не мянялася, не хацеў Гандляр ні паўвостраў вяртаць, ні свае прынцыпы перагледжваць. Тады шэрыфы цэны на ўсе яго тавары знізілі. У адказ ён падняў цэны для сваіх радасных суграмадзянаў. Баш на баш. Вы — ніжэй, я — вышэй...

І зноў народ радуецца. Праўда, краіне-суседу дрэнна, але і гэта Гандляру па душы. Тут, аднак, і свае пачалі было нешта лішняе казаць і дазваляць, дык ён ім хуценька раты заткнуў, новыя забаронныя законы напісаў. А ў яго яшчэ адна магутная зброя была, яе ён і ўжыў. Страшнай забойнай сілы зброя — прапаганда! Ён, маўляў, самы лепшы, і без яго ўсё абрынецца, а астатнія — так, нішто. Тэлебачанне і большасць так званых СМІ гэта пацвердзілі.

Вось так яны і жывуць да гэтага часу. У тым далёкім, Богам забытым гарадку Гандляр захацеў увесь населены пункт падарваць, але не атрымалася. І чым спрабаваў? Дынамітам, па-старому. А ў сучаснага Гандляра ёсць нешта круцей дынаміту, ды яшчэ і з кампутарным навядзеннем. Там, у гарадку, толькі палова яго ўзляцела на паветра, аднак сам Гандляр ацалеў. Гэты вялікі Гандляр таксама спадзяецца ацалець, у яго ўласнае надзейнае сховішча ёсць, раптам уратуе. Што станецца з горадам, краінай, народам і таго Гандляра, і гэтага мала цікавіць. Галоўнае, выжыць самому і спакойна памерці ад старасці...

Вось такая гісторыя. Нібыта як казачная, фантастычная. Але я не казачку прыдумаў, а проста пераказаў раман знакамітага пісьменніка Стывена Кінга «Патрэбныя рэчы». Толькі параўнаў раман з нашым часам. Шкада, што гандляры больш прадаюць «патрэбныя» рэчы, у тым ліку і кнігі, а не чытаюць іх самі. А то б маглі задумацца і пастараліся б неяк выправіць гэтае бядотнае становішча — у сваім горадзе (ці краіне), ды і суседніх таксама.

Хоць наўрад ці такое здарыцца.

Цуды бываюць толькі ў кнігах...

# Толькі адна ноч: 29 кастрычніка 1937 года

## (Мінск, унутраная турма НКВД)

Леанід МАРАКОЎ (1958—2016)

29 кастрычніка 1937-га, у дзень Ленінскага камсамола і, напэўна, у гонар 20-годдзя Кастрычніцкага перавароту, у сталіцы Беларусі адбылася акцыя, аналагаў якой яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва. На працягу ночы былі расстраляныя каля 100 грамадскіх, культурных і палітычных дзеячаў Беларусі.

Па крупінках, на працягу дзесяці гадоў, мне лёсіла сабраць звесткі пра пакутнікаў. Спачатку былі адшуканы імёны чатырнаццаці закатаваных, потым дваццаці двух, трыццаці пяці, шасцідзесяці васьмі...

Паралельна збіралася інфармацыя і пра сталінскіх апрычнікаў, нелюдзяў, якія катавалі і расстрэльвалі... І гэта аказалася самым цяжкім: бальшавікі правялі татальнае знішчэнне слядоў арганізаванага імі генацыду супраць эліты беларускага народа: спачатку забілі тых, хто расстрэльваў, а потым і галоўных выканаўцаў...

У Архіве прэзідэнта Расійскай Федэрацыі (вопіс № 24, справа № 411) захоўваецца «Список лиц, подлежащих суду военной коллегии Верховного суда Союза ССР». У спіс уключаны «ворагі народа» з усяго Савецкага Саюза ад Далёкаўсходняга краю, ад паўночнай ледзяной Комі АССР да сонечнай курортнай Крымскай АССР. Спіс датаваны 7 верасня 1937 года. І падпісаны І. Сталіным, В. Молатавым, К. Варашылавым, М. Яжовым.

Спіс асуджаных па першай катэгорыі (да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу) па Беларускай ССР налічвае 103 чалавекі, па другой катэгорыі (прыгавораны да 10 і больш гадоў зняволення ў канцлагерах) — 6. Спіс па Беларускай ССР датаваны 15 верасня 1937 г. і падпісаны І. Сталіным, В. Молатавым і начальнікам 8 аддзела Галоўнага ўпраўлення Дзяржаўнай бяспекі СССР старшым маёрам У. Цэсарскім.

Згоду, дакладней, загад на знішчэнне па ўсім СССР тысячаў (атрымаецца мільёнаў) ні ў чым не вінаватых людзей далі вышэйшыя кіраўнікі краіны. Загад дадзены, і яго трэба было выконваць, а лепш... перавыконваць. Што і было зроблена ў невыпадкова прызначаную ноч.

29 кастрычніка 1937 года на працягу начы ў сутарэннях унутранай турмы НКВД (так званай «амерыканкі») былі расстраляны паэты Алесь Дудар, Юрка Лявонны, Валеры Маракоў, Ізі Харык (дадзены ў смяротны спіс, як і шэраг іншых дзеячаў культуры ўжо мясцовымі энкавэдыстамі), Сяргей Мурзо, Зяма Півавараў, Міхась Чарот, Арон Юдэльсон, празаікі Платон Галавач, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Майсей Кульбак, Васіль Сташэўскі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Анатоль Вольны, літаратурныя крытыкі Якаў Бранштэйн, Саламон Левін, Пятро Хатулёў, Макар Шалай, журналісты Павел Шастакоў і Віктар Вайноў, наркамы асветы Аляксандр Варончанка, Аляксандр Чарнушэвіч, крытык, публіцыст Хацкель Дунец, наркам юстыцыі БССР Максім Ляўкоў, нам. наркама земляробства БССР Аскар Сапрыцкі, адказны сакратар СНК БССР Іван Бурдыка, другі сакратар ЦК КП(б)Б Мікалай Дзеніскевіч, загадчык асобага сектара ЦК КП(б)Б Міхаіл Лабадаеў, сакратар Барысаўскага РК КП(б)Б Леў Маісееў, начальнік упраўлення па ахове аўтарскіх правоў пры СП БССР Іосіф Кудзелька, начальнік планава-фінансавага ўпраўлення наркама асветы БССР Дзмітрый Сялоў, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, педагог, рэдактар Аляксей Кучынскі, дзяржаўны дзеяч, педагог, публіцыст Язэп Каранеўскі, загадчык секцыі геаграфіі Інстытута эканомікі АН БССР Сцяпан Маргелаў, загадчык вучэбнай часткі Мінскага вышэйшага педінстытута Міхаіл Рыдзеўскі, фізік Яўген Успенскі, вучоны-аграхімік Рыгор Пратасеня, выкладчык Мінскага Белпедтэхнікума Ігнат Афанасьеў, настаўнік Іван Жывуцкі, студэнт гістфака Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта Саламон Лямперт — і многія іншыя невіноўныя ахвяры бальшавіцка-камуністычнага рэжыму...

Сёння ўжо цяжка ўдакладніць, калі — 29-га (у 23:45, да прыкладу) або 30-га (скажам, у 00:15) кастрычніка 1937-га — расстралялі беларускага празаіка і грамадскага дзеяча Янку Нёманскага, паэтаў Тодара Кляшторнага і Юлія Таўбіна, нам. загадчыка сельскагаспадарчага аддзела рэдакцыі газеты «Віцебскі пралетарый» Прохара Іспраўнікава, начальніка ўпраўлення вышэйшай школы наркамасветы БССР Вадзіма Башкевіча, нам. наркама асветы БССР Іосіфа Гершона, загадчыка аддзела школ і навукі ЦК КП(б)Б Мікалая Арабея, рэктара БДУ Ананія Дзьякава (Дзякава), старшыню ЦК прафсаюзаў БССР Захара Кавальчука, сакратара Варашылаўскага РК КП(б)Б Захара Кавалёва, начальніка ўпраўлення будаўнічых работ пры СНК БССР (?) Анатоля Аўгусціновіча, дырэктара трэста «Галоўхлеб» БССР Георгія Барзунова, начальніка ўпраўлення шкляной прамысловасці наркамата лёгкай прамысловасці БССР Мікалая Кандрашука, дырэктара Белпрамторга Саламона Кантара, загадчыка аддзела хлебнай групы наркамата ўнутранага гандлю Барыса Малова, сакратара Дзяржынскага РК КП(б)Б, члена ЦК КП(б)Б (з 1937) Барыса Мар'янава, кансультанта ўпраўлення справамі СНК БССР Дзям'яна Міхайлава, дырэктара Гідролізнага вопытнага завода наркамата мясцовай прамысловасці Сяргея Міцькова, кансультанта СНК БССР па камунальных і транспартных справах Васіля Петрушэню, загадчыка сакратарыята СНК БССР Якава Спектара, наркама сацзабеза БССР Андрэя Турлая, загадчыка лабараторыі Віцебскай ветэрынарнай станцыі Івана Карпенку, нам. дырэктара па навуковай рабоце Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі Элізара Мазеля, загадчыка кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута Якава Сандамірскага, загадчыка лабараторыі Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі Паўла Мухіна, загадчыка лабараторыі біяфабрыкі № 5 у Віцебску Панцялея Сердзюка...



СТРОГО СЕКРЕТНО
Снятие копий воспрещается
ПОДЛЕЖИТ ВОЗВРАТУ В 48 ЧАС.
(Пост. ПБ от 5 мая 27 г. пр. № 100, п. 5)
Кому послана
Прот. П. Б. № 54 п. 487
25.X.37 г.

ШИФРОВКА

Из КИРОВА отправлена 17-20 21.X. 1937 г. Поступила в ЦК ВКП на расшифрование 21.X. 1937 г. ч. 19 м. 50

Вх. № 2320/Ш

МОСКВА ЦК ВКП(б) тов. СТАЛИНУ.

В результате операции по первой, второй категориям в области вскрыто свыше 70 различных активно действовавших кулацких, белогвардейских, церковно-сектантских организаций, групп. В частности выявлена значительная засоренность на железнодорожном транспорте, где подлежит из"ятию свыше 500 человек белогвардейско-кулацкого элемента.

Прошу об увеличении лимита по первой категории дополнительно на 300 человек, второй категории дополнительно на 1000 человек.

Секретарь обкома РОДИН.

Расшифрована 22.X. 1937 г. в ч. 10 м. 00 Напечатано 4 экз. Чечулин НК

ИЗВЛЕЧЕНИЕ ИЗ ИНСТРУКЦИИ

1. Шифротелеграмма должна храниться только в секретных хранилищах.
2. При ссылках на текст шифротелеграмм воспрещается указывать, что цитируемый текст получен шифром, также воспрещается указывать и номера шифровок.
3. Ответ на шифровку посылается также в шифрованном виде, текст передаваемого шифром сообщения составляется коротко и ясно: пишется только в одном экземпляре, который и передается на шифрование.

Уключаныя ў сталінскі смяротны спіс былі і начальнік ветэрынарнага ўпраўлення наркамата земляробства БССР Міхаіл Львовіч Пасманік (нарадзіўся ў 1903), яго намеснік Аляксандр Васілевіч Іваноў (нар. у 1898) і старшы ветэрынарны ўрач ветэрынарнага ўпраўлення Канстанцін Іосіфавіч Гурскі (нар. у 1903) (разам з машыністам паравознага дэпо станцыі «Мінск» Іосіфам Вікенцьевічам Бяганскім (нар. 1.1.1881), бацькам таксама рэпрэсаванай пісьменніцы Ядвігі Бяганскай і 20-цю іншымі далучанымі да спіса мясцовымі энкавэдыстамі) 17 кастрычніка 1937 года былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны.

Наркам унутранага гандлю БССР Нохім Гіршавіч Гурэвіч (нар. у 1895), падчас арышту беспрацоўны Мікалай Паўлавіч Ермакоў (нар. 1.5.1894; 4.11.1937 была арыштавана, а 28.11.1937 асуджана да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР яго жонка Францішка Іванаўна Ермакова), загадчык кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута Мікалай Іванавіч Міхееў (нар. у 1905), загадчык складам «Галоўнафты» Кузьма Рыгоравіч Пятрашын, падчас арышту беспрацоўны Міхаіл Мікітавіч Пітомцаў (нар. 13.11.1902; 4.11.1937 была арыштавана, а 28.11.1937 асуджана да 8 гадоў ППК і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР яго жонка Аляксандра Георгіеўна Пітомцава, настаўніца Мінскай школы № 6), нам. начальніка штаба, палкавы камісар 16 стралковага корпуса Іван Майсеевіч Паплыка (нар. у 1890; 25.9.1932 органамі АДПУ быў арыштаваны і 2.12.1932 асуджаны за «ўдзел у контррэвалюцыйнай кулацкай арганізацыі» да 5 гадоў ППК Сцяпан Майсеевіч Паплыка, яго брат; 6.11.1937 (разам з сынам Канстанцінам; нар. у 1917) была арыштавана, а 16.5.1938 асуджана да 8 гадоў зняволення і выслана ў Краснаярскі край яго жонка Юлія Іванаўна Паплыка, загадчыца чытальнай залы Магілёўскай цэнтральнай бібліятэкі), вайсковец, старшы афіцэр БВА Апалон Уладзіміравіч Пратапопаў, ветэрынарны ўрач Віцебскай біяфабрыкі Мікалай Платонавіч Чарняк (нар. у 1885; 15.11.1937 была арыштавана, а 16.5.1938 асуджана да 8 гадоў ППК і фельчар Віцебскай чыгуначнай бальніцы Марыя Еўсцігнееўна Чарняк, яго жонка; хутчэй за ўсё былі рэпрэсаваны і іх дзеці), ветэрынарны ўрач Віцебскай біяфабрыкі Канстанцін Георгіевіч Чачура (разам з загадчыкам кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута Віктарам Сымонавічам Кляніцкім (нар. у 1879), загадчыкам кафедры анатоміі гэтага ж інстытута Барысам Аляксандравічам Абуховым, загадчыкам кафедры заагігіены інстытута Васілём Сямёнавічам Старынскім, дацэнтам інстытута Герасімам Артамонавічам Качанавым (нар. у 1907), пробашчам касцёла кармелітаў у Чавусах Магілёўскай вобласці Паўлам Мацвеевічам Казюнасам (нар. 1868), выкладчыкам Магілёўскага сельскагаспадарчага тэхнікума Давыдам Якімавічам Маеўскім-Лукшам (нар. у 1899), прафесарам Віцебскага медыцынскага інстытута Іванам Васілевічам Троіцкім (нар. у 1893), дырэктарам Мінскага (Беларускага) навукова-даследчага інстытута прамысловасці Самуілам Захаравічам Слонімам (нар. 30.9.1888), праваслаўным святаром Аляксандрам Сямёнавічам Раеўскім (нар. у 1868) і 30 далучанымі да спіса мясцовымі энкавэдыстамі) былі асуджаны да ВМП і расстраляныя 31 кастрычніка 1937 года...

29 кастрычніка 1937-га толькі ў Мінскай турме НКВД энкавэдысты расстралялі не менш за 70 чалавек (праўдападобна, больш за 100). І заўважце — каго! Дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, навукоўцы, літаратары, работнікі асветы. Ніколі — ні раней, ні пазней — такога адсеву не рабілася. Вынішчалі эліту беларускай інтэлігенцыі, мозг нацыі...

Вынікі таго расстрэлу мы адчуваем і цяпер! Страх, што ўеўся ў нашыя гены, душыць, як пятля сціскае нашыя шыі, не дае дыхаць...

У тым юбілейным для бальшавікоў 1937-м, калі іх гвардзейцы-энкавэдысты пачалі татальнае вынішчэнне інтэлектуальнай беларускай эліты, толькі за тры восеньскія месяцы пачварамі таталітарнага рэжыму было рэпрэсавана больш за 500 грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі.

Рэпрэсавана... Знайшлі ж бальшавікі слова! Не канкрэтнае: расстраляны або загублены на катарзе, ці замардаваныя ў высылцы, а замежнае, не кожнаму да канца зразумелае — рэпрэсаваны (з лацінскай repressor — падаўленне, прыцісканне).

Не, гэта было не падаўленне, гэта было вынішчэнне, генацыд супраць беларускага народа!

...А яшчэ першага жніўня 1937 года на вялікім вогнішчы ў «амерыканцы» энкавэдысты Сакалоў (нам. начальніка Мінскай унутранай турмы НКВД), Абрамчык і Гарбацэвіч знішчылі — спалілі! — некалькі дзясяткаў тысячаў (!) рукапісаў беларускіх літаратараў. Гарэлі творы, якія не «прайшлі» цэнзуру або пісаліся ў стол, для нас, нашчадкаў. Гарэлі рукапісы М. Багуна, С. Баранавых, А. Вольнага, П. Галавача, У. Галубка, Ц. Гартнага, С. Дарожнага, А. Дзеркача, А. Дудара, Х. Дунца, М. Зарэцкага, С. Знаёмага, В. Каваля, Т. Кляшторнага, М. Кульбакі, Ю. Лявоннага, В. Маракова, С. Мурзо, Я. Нёманскага, З. Півавара, С. Ракіты, А. Розны, В. Сташэўскага, Б. Тарашкевіча, Ю. Таўбіна, У. Хадыкі, І. Харыка, М. Чарота, В. Шашалевіча, А. Юдэльсона і многіх іншых. Гарэла амаль уся спадчына пісьменнікаў «першага прызыву»...

Няма чалавека — няма толькі адной праблемы.

Няма рукапісаў — няма пісьменнікаў, няма гісторыі, няма нацыі!

Нашу гісторыю разам з нашым народам ЯНЫ ўвесь час і выкарчоўваюць. Калі мячом, калі агнём...

# Персанальны Купала

## Словы пра беларускага прарока



Адам ГЛОБУС

### Адказ

Праз сто гадоў пасля напісання Янкам Купалам прарочага верша «А хто там ідзе?» быў знойдзены годны адказ на пастаўленае пытанне: «Нашы!».

### Прышвін

Дзённікі Міхаіла Прышвіна напісаны адчайным глыбокім рускім чалавекам. Да словаў Прышвіна ёсць давер, таму і чытаюцца яго тэксты, таму і задумваешся над імі. Хоць бы і над такім параўнаннем народаў: «Тагор у Маскве. Вось прыехаў з Індыі глядзець, а я не магу з Сергіева ехаць у Маскву. Тут шмат асабістага. Тагор багаты, я жабрак. У яго народ, у які ён верыць, у яго школа. У мяне народ, які нібыта знікае…».

Пасля такіх словаў што можна сказаць пра мой беларускі народ, які ўвесь час жыве пад пагрозаю knižnania... 

### Скварцова

На тэатральнай афішы прачытаў: «Раскіданае гняздо». Зноў-наноў паставілі драму Янкі Купалы. Кватэрнае пытанне, праблемы з домам і хатнімі справамі будуць актуальныя заўжды. Добра, што купалаўская п'еса пойдзе на сталічнай сцэне. Былі на плакаце слупкі з прозвішчамі стваральнікаў і ўдзельнікаў спектакля. Кінулася ў вока «Скварцова». Чаму яна Скварцова, а не Шпакоўская ці Шпак? Па-беларуску — шпак і шпакоўня, а не скварэц і скварэчня. Ведаю-ведаю, прозвішчы не перакладаюцца. Рускіх Кавалёвых не перапісваюць у Кузняцовы. Але ж майго дзеда Броніка з Кісяля зрабілі ў тамбоўскім шпіталі Кісялёвым. Так у нашым доме родныя браты пачалі хадзіць пад рознымі прозвішчамі, добра, што праз гэта наша «гняздо» не раскідалася.

### Чыгуначная станцыя

У юнацтве я зачытваўся ранняй лірыкай Купалы. З томікам яговых вершаў ездзіў з Мінска на станцыю Радашковічы. Там я гуляў у летніх правінцыйных краявідах, поўных зялёнай лістоты. Было такое адчуванне, што на нейкай са сцежак я абавязкова сустрэну вялікага паэта. Не сустрэў, але чаканне такой сустрэчы доўгі час не пакідала мяне.

Шкада, што цяпер не ма́ю жадання паехаць з Мінска на электрычцы, каб сыйсці на станцыі Радашковічы.

### Галоўнае

Кепскае пра Янку Купалу, добрае пра Янку Купалу… Адзнакі мала каштуюць, бо галоўнае — тое, што гутарка вядзецца пра нашага прарока Янку Купалу.

### Раман

Каб Янка Купала напісаў раман, ён стаў бы Якубам Коласам…

### Далікатнасць

У кнізе Міколы Хведаровіча «Памятныя сустрэчы» ёсць успаміны і пра Купалу. Мяне спыніў адзін сказ: «У друкарні ўсе ведаюць і памятаюць свайго любімага Янку Купалу, самага далікатнага і чулага грамадзяніна нашага горада». У распаведзе старога рабочага парадавала тое, што Купала быў далікатны. Асабіста я ні разу ў жыцці не бачыў далікатнага паэта. Пэўнае каліва далікатнасці яшчэ мелася і цанілася ў паводзінах некаторых літаратараў з пакалення маіх бацькоў. У маладзейшых пісьменнікаў тае далікатнасці ўжо не было зусім. Вывятрылася яна з пісьменніцкага асяроддзя, як знікла і з мастакоўскіх майстэрняў. У сучасных артыстах я гэтаксама не бачу далікатнасці. Можа таму і веру, што яна была ў Купалы. Зрэшты, у каго яшчэ з нашых паэтаў магла быць далікатнасць? Ні ў кога…

### Дэцэбэлы

Купала ў «Тутэйшых» і вось гэтак саркастычна апісвае беларусаў: «Народность ныне распадается на две родовые ветві: племя — белоруссы і племя — тоже-белоруссы, ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов».

Скажу праўду: мяне заўсёды цікавілі «тоже-белоруссы». Цікавілі не менш за ўласна беларусаў. Я для іх нават сваё азначэнне вынайшаў — сУчаснікі, а каб не называць іх «рэнегатамі і дзегенератамі», я іх часам называю больш ласкава — дэцэбэлы.

### Сялянка

Янка Купала з гуртом дробных паэтаў прыехаў у Маскву. Гуляючы па сталіцы СССР, беларускія паэты апынуліся каля манумента Мухінай «Рабочы і сялянка». Купала зрабіў кола вакол манумента і сказаў, што ў сялянкі выдатная дупа і ён не адмовіўся б з такой дупай пераспаць. Дробныя паэты панапісвалі на Купалу даносы. Маўляў, пясняр ганіў савецкі помнік і бэсціў савецкую сялянку. Дробныя паэты яшчэ не здагадваліся, што Янка Купала самператворыцца ў вялізную металічную мінскую скульптуру, якая будзе адпавядаць памерам той маскоўскай сялянкі, з якой паэт падумваў пераспаць.

### «Я»

Несупынныя змены, штодзённая мітусня, стракаты каледаскоп падзей, крыкушчыя навіны, — ад усяго гэткага плывучага і віраўтваральнага галава кругам ідзе. Шукаеш апірышчы і не знаходзіш, намацваеш пэўнасць, а яна не намацваецца, яна выслізгвае, рассцярушваецца, крышыцца і рассыпаецца ў пыл. Ні рэлігія, ні веды, ні каханне не даюць спакою, а зноў жа множаць колькасць уражанняў. Што ты маеш нязменнага ў рухомым свеце, дзе не было, няма і не будзе нічога вечнага? Гэтак думаецца пасярод ночы. Згадваеш сябе зусім малога — хлопчыка ў ложку, які ўжо заплюшчыў вочы, але яшчэ не спіць. У тым хлопчыку і ў табе сённяшнім аднолькавае «я». Яно засталося нязменным, тваё маленечкае «я». За пяцьдзясят пяць гадоў яно не змянілася. Таму я іду ўслед за паэтам Купалам, які сказаў, што верыць у самога сябе.




Герой п'есы Янкі Купалы Мікіта Зносак, 2015 г.
Малюнак аўтара

### Пасрэднасці

Патануць у пасрэднасці? Горш і не бывае. Ведаю. Але ж як спакуслівa напісаць пра тэлебабу, раздзьмутую ад пыхі, ці накрэмзаць колькі смешных слоў пра чубатага культуролага, які несупынна трашчыць у ютубе. Напішаш — і прачытаюць, і пагалоскі пойдуць пра напісанае. Пасрэднасці любяць чытаць пра пасрэдных. Пэўна любяць. Чытаць напісанае табой пра Шапэнгаўэра ці пра Канфуцыя пасрэднасці не стануць. Правяраў. Пісаў і публікаваў думкі, запісаныя на маргінэсе старонак з тэкстамі Канфуцыя і Шапэнгаўэра… — маўчанне і асуджэнне, толькі бацька ўхваліў. Можна было б і кінуць пісанне пра вялікіх і таленавітых, ды не кінуў, бо, пішучы пра Пікаса ці Ван Гога, я раблюся лепшым. Малюю постаць генія і адчуваю далучанасць да розуму, да веры і святла. Хаця святло тое жорсткае і пякучае, таму ім нельга злоўжываць. Напішаш пра Хармса і сыходзіш у цень да змрочных пасрэднасцяў, каб адпачыць сярод дурняў і няздараў, сярод сквапных і зайздросных, сярод злых і лянівых… Адпачнеш і вяртаешся да Мікалая Гогаля ці да тутэйшага генія — Янкі Купалы.

### Зносак

Працуючы над экранізацыяй п'есы «Тутэйшыя», мы — вясёлыя сцэнарысты — былі падумалі, што варта напісаць трагікамедыю пра лёс аўтара — Янкі Купалы, убачаную вачыма персанажа — Мікіты Зносака. Біяграфіі Купалы ў нас нібыта і пішуцца, і бачацца яны вачыма Заходняга вучонага, Усходняга вучонага, Здольніка, але найпраўдзівая біяграфія Янкі Купалы можа быць напісана толькі вачыма ягонага самага беларускага і самага жыццялюбівага персанажа — Зносака, які табе і Зносілов, і Знасілоўскі, меджду протчым, мамаша. Калі быць паскудна-праўдзівым, што цяжка і брыдка, дык варта ўсё ж сказануць, што біяграфіі Янкі Купалы насамрэч пішуцца Зносакамі, якія пераапранаюцца ў Заходніх вучоных, Усходніх вучоных і Здольнікаў, а напраўду яны ўсе — Зносакі ўзорныя, ваўкі пазорныя, меджду протчым. Таму мы і адмовіліся пісаць трагікамедыю пра Янку Купалу — нашага прарока.

### Вучоныя

З напісання трагічна-смяшлівых сцэн «Тутэйшыя» мінула тудэма-сюдэма ажно сто гадоў. Тэрмін, скажу табе, меджду протчым, вялікі. Таму наспеў час паразважаць пра новую абноўленую і дапоўненую версію, скажам так — «Тутэйшыя-2». Не сумняюся, што ў новы варыянт смяшліва-трагічных сцэн Купала дадаў бы яшчэ адну пару вучоных. Да Заходняга вучонага ў канфедэратцы і Усходняга вучонага ў касаваротцы далучыліся б Паўночны вучоны ў зялёным фрэнчы з алюмініевымі гузікамі і Паўднёвы вучоны ў шаўковых сініх шараварах. Паўночны вучоны быў бы падобны да Заходняга з дадаткам малаўцямных выказванняў пра моцны паўночны характар; а Паўднёвы вучоны меў бы падабенства з Усходнім і перакручваў бы ягоныя думкі пра місію, веліч і наканаванасць. Што да Мікіты Зносака, дык у размовах з Паўднёвым вучонным ён называў бы сябе Мыкыта Знасько, а ў гутарках з Паўночным — Мікітас Знасікас.

### Фэйкі

Ангельскія вучоныя сказалі… Японскія эксперты запэўнілі… Замежныя спецыялісты паведамілі… Амерыканскія аналітыкі напісалі… Чуеш такое і разумееш — фэйк. Здаецца, што ўсе мусяць разумець і прамоўтваць глупствы з такімі і да іх падобнымі пачаткамі. Ды дзе там… Нават я часам выслухоўваю нешта падобнае, да словаў «а беларусы не цэняць», «а беларусы не разумеюць», «а беларусы…»… Пасля гэткіх словаў я зазвычай забаньваю распаўсюдніка фэйкаў. Баню, бо ведаю правільны працяг верша:

*А беларусы нікога ж не маюць,*
*Няхай жа хоць будзе Янка Купала…*

### Сціпласць

Праглядаючы зборнік «Успаміны пра Янку Купалу», заўважыў, што шмат хто згадвае сціпласць вялікага паэта. Калі ўспомніць помнікі і карціны, прысвечаныя беларускаму генію, дык там я раней не заўважаў гэтай важнай рысы, як не заўважаю яе і ў фотаздымках, з якіх рабіліся карціны і помнікі.

Безумоўна, Купала быў сціплы. У гэтым не сумняюся, але чаму літаратары вылучалі і падкрэслівалі менавіта гэткую рысу ў характары прарока? Адказ я знайшоў у іншым зборніку, гэта «Апавяданні пра Леніна» Міхаіла Зошчанкі. Ленін у творах Зошчанкі неверагодна сціплы чалавек. Ён паказальна сціплы. Ён сціплы кананічна. У часы сусветнай вайны і рэвалюцыйных пераўтварэнняў, у часы гвалту, антычалавечай крыважэрнасці і татальных разбурэнняў, у часы рэальнага, а не міфалагічнага, апакаліпсісу новы герой мусіў вылучыцца стрыманасцю, ціхамірнасцю і сціпласцю. Таму з Леніна, а за ім і з Купалы пісьменнікі рабілі і зрабілі паказальна сціплага генія. Тая ўзорная сціпласць, як гэта ні парадаксальна прагучыць, была запазычана ў вобраза біблейскага, у вобраза Хрыста.

Заканчэнне на стар. 4 »

# Персанальны Купала

## Словы пра беларускага прарока

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 3

### Харчовыя тавары

Ёсць людзі, чыім успамінам давяраеш. Адзін з такіх — паэт Павел Пруднікаў, які ў часы сваёй бурапеннай маладосці падпісваў вершы псеўданімам Буравей. Згадваючы Янку Купалу, Пруднікаў напісаў: «…пайшоў “пад нож” увесь тыраж аднатомніка выбраных твораў Я. Купалы, напісаных ім за 10 гадоў савецкага часу — 1918—1928 г.г. Імі потым на працягу года, як і “Крывічамі” Міхася Зарэцкага, загортвалі харчовыя тавары ў прадуктовых магазінах Мінска».

Чытаю і згадваю, як у 1985 годзе пайшоў «пад нож» мой першы зборнік вершаў «Груд». Вялікага недахопу паперы ў той год не было, і ў аркушы з маімі санэтамі ніхто не загортваў харчовыя тавары ў мінскіх крамах. Хоць у гэтым мне было лягчэй перажываць знішчажэнне кнігі.

### Наканаванне

Ёсць творцы, якім наканавана загінуць. Усё іх жыццё коціцца да выніку, які ўкладаецца ў два словы «трагічна загінуў». Так загінуў Вінсэнт Ван Гог, так загінула Мэрылін Манро, так загінуў Джон Ленан… Нечакана і трагічна абарвалася жыццё геніяльнага Купалы.

Сведка той ракавой падзеі — Кандрат Кандратавіч Крапіва — згадвае: «Апошні раз я бачыў Янку Купалу зноў жа ў Міхася Лынькова за гадзіну да яго трагічнай смерці. Апроч нас трох, у нумары было яшчэ чалавек пяць нашых агульных знаёмых. Я на кароткі час адлучыўся ў горад, а калі вярнуўся ў гасцініцу, мяне як громам паразіла вестка: Янка Купала загінуў».

Ёсць некалькі розных версій пра апошнія імгненні жыцця найвялікшага з беларускіх пісьменнікаў, толькі галоўным у іх застаецца факт: 28 чэрвеня 1942 года ў Маскве загінуў паэт Янка Купала.

### Нумізматыка

Калекцыянаванне, збіранне самых розных каштоўнасцяў, захапленне філатэліяй ці нумізматыкай больш пасуе навукоўцам, чым людзям творчым. Таму я крыху здзівіўся, прачытаўшы ва ўспамінах Гаўрылы Гарэцкага, што паэт Купала шукаў на рынку ў Смаленску старадаўнія манеты. Праўда, мяне суцешыў той факт, што частку багатай нумізматычнай калекцыі разам з дзвюма кнігамі па нумізматыцы Янка Купала падараваў братам Гарэцкім — Максіму і Гаўрылу. Мне падаецца, у такім падарунку ёсць ажно тры станоўчыя складнікі. Па-першае — Янка Купала быў шчодры, што добра; па-другое — паэт Купала не меў заганнага азарту, на які так часта хварэе большасць калекцыянераў і збіральнікаў, па-трэцяе — каштоўнасць падарунка запэўнівае мяне ў тым, што Купала высока цаніў талент Максіма Гарэцкага, шанаваў талент іншага творцы, што не так і часта сустракаецца ў творчых асяродках.

### Графінчык

Любіў я выпіць, піў рознае, нешта больш падабалася, а штосьці — менш. Траплялiся напоі, якія мне моцна не падабаліся. Ну проста не — і ўсё. Сярод іх і настойка «Зуброўка». Усё ў ёй не маё: і колер, і смак, і пах. Нешта ў ёй для мяне — парфумнае, і парфумнага ў ёй моцны перабор. Настойку «Белавежскую» я заўсёды любіў, былі часы, калі толькі белавежскую і купляў; а зуброўку адзін раз пакаштаваў, каб яе больш ніколі і не ўжываць. Таму мяне здзівіў той факт, што Купала сам рабіў з гарэлкі зуброўку, сам у графінчык з гарэлкаю кідаў тры травінкі зуброўкі.

Паэт Алесь Звонак так згадаў травінкі: «Намнога пастарэў наш “дзядзька Янка”, як тады ласкава называлі яго ўсе мы, маладзейшыя; выгляд у яго быў хваравіты, груз перажытага і незаслужанай крыўды ціснуў яму плечы, трошкі горбіўся ён пад іх цяжарам, але не падаваў выгляду, стараўся жартаваць, частаваў гарэлкай са свайго графінчыка з трыма травінкамі зуброўкі і сялянскімі прысмакамі накшталт вэнджанай шынкі, паляндвічкі, кілбаскі…».

Купала шмат каго частаваў самаробнай зуброўкаю. Усе лічылі за вялікі гонар выпіць з Купалам. Вядома, і я так лічу, але ад зуброўкі я адмовіўся б. Ну не маё, як не маё — пераліваць гарэлку ў грыфінчык. Я спрабаваў, не прыжыўся на маім стале графін. Раней, калі ў маім далёкім дзяцінстве гаспадыня стаўляла на стол графінчык, дык у ім была вішнёўка ці слівоўка, якія лічыліся жаночымі напоямі. Мужчыны пілі чыстую гарэлку, а настойку з графінчыка налівалі жанчынам.

Зрэшты, мне падабаецца гэткая шляхетная дэталь у вобразе паэта Янкі Купалы — ён меў свой графінчык з гарэлкай, у якой стаялі тры травінкі зуброўкі.



Мікіта Зносак са сваімі абразамі. 2015 г. Малюнак аўтара

### Твардоўскі

У занатоўках пісьменніка Аляксея Кандратовіча, прысвечаных успамінам пра паэта Аляксандра Твардоўскага, ёсць шмат згадак і пра Купалу. «…для Твардоўскага Мінск не толькі цэнтр рэспублікі, цэнтр беларускай культуры, але яшчэ і “горад Янкі Купалы”…».

Для мяне Мінск таксама горад Купалы, няхай не ўвесь, але тая ягоная частка, дзе стаіць музей Янкі Купалы, дзе ўзвышаецца помнік, дзе ў скверыку, пад помнікам некалі збіраліся мае раўналеткі-хіпі… Там мой Мінск — Янкі Купалы. Дарэчы, і ў доме, дзе я абсталяваў сабе мастакоўскую студыю, ёсць уваход на станцыю метро «Купалаўская».

### «Смаленне»

Не сакрэт, што Янка Купала курыў. Любіў ён цыгаркі. Такі быў свет, што ледзь не ўсе мужчыны «смалілі» тытунь, дый жанчыны недалёка ад іх адставалі. Купала курыў паўсюль, курыў у шынках за кухлем піва, курыў на трамвайных прыпынках, курыў і ў працоўным кабінеце, дзе было шмат кніжак, на паліцах у шафах.

Янка Купала вельмі любіў і збіраў кнігі. Аднаго разу, калі Свіслач выйшла з берагоў і затапіла ягоны дом па самыя вокны, дык ураваць бібліятэку дапамаглі маладыя паэты, якія папераносілі кніжныя скарбы на гарышча.

Гэтыя два захапленні — любоў да кніжак і да тытуню — раптам сышліся ў нечаканым эпізодзе, расказаным навукоўцам педагогам Аляксандрай Шкляевай, якая сябравала з сям’ёй Янкі Купалы і апісала вечар чэрвеня 1942 года, напярэдадні ягонай апошняй паездкі ў Маскву: «У гэты вечар мы сядзелі на верандзе, размаўлялі. Успамінаю, як Купала звярнуўся да майго сына Пятра, папрасіў у яго папяроснай паперы скруціць цыгарку. Уладзіслава Францаўна была незадаволена: “Зноў будзеш смаліць!”. Мой сын тут жа стаў думаць, дзе ўзяць паперы, і раптам схапіў з кніжнай паліцы нейкую кнігу. У кнізе ілюстрацыі былі перакладзены папяроснай паперай. Янка Купала застаўся задаволены, стаў рабіць самакруткі з гэтай паперы і “смаліць”…».

Вайна. Свет руйнуецца. Купала, для якога бібліятэка была адной з найвялікшых каштоўнасцяў, скурвае вырваныя з кнігі старонкі. Жыццё вялікага паэта сканчаецца, і яно скончыцца напрыканцы таго самага чэрвеня.

### Дамок

Цячэ праз Мінск рэчка Свіслач, а ў ёй адлюстроўваюцца розныя дамы. Свіслач цячэ няспешна і несупынна, вада ў ёй мяняецца, змяняюцца і дамы на яе берагах. У адным з такіх надрэчных дамоў некалі жыў паэт Купала, а раней у тым доме прайшоў першы з’езд сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Купала каля таго дома пасадзіў і даглядаў ружы. Паэт павінен любіць кветкі, інакш і быць не можа. Купала любіў ружы.

Часы мяняліся. Загінуў паэт. Зруйнавалі дамы на берагах рэчкі. Пасля каля Свіслачы паставілі дамок, падобны да таго, дзе праходзіў з’езд, а на другім беразе пабудавалі музей Янкі Купалы. У дзяцінстве мяне разам з аднакласнікамі вадзілі па тых музеях. З тых экскурсій мне запомніліся навюткія крэслы ў музейных інтэр’ерах, думалася, што было б добра і ў сваёй кватэры мець хоць бы адно зграбнае крэсла.

Ёсць у чалавека такая здатнасць: усё бачанае ў музеях і крамах прымерваць на сябе. Так, ідучы першы раз па Празе, я пабачыў у краме шыкоўны скураны фатэль. Такі фатэль можна паставіць у музеі Шэрлака Холмса, пагатоў ён і прадаваўся ў краме пад шыльдаю «Шэрлак Холмс». Мне ўявілася, як лонданскі дэтэктыў курыць піпку, седзячы ў ім. Яшчэ падумаў, што я ніколі не набуду гэткі фатэль і не пастаўлю ў сваёй кватэры.

Я быў недальнабачны, бо праз які год я пабачыў фатэль у музеі з’езда, дзе палову памяшкання перарабілі ў мэблевую краму. Набыў я скураны галандскі фатэль і паставіў у сваім працоўным кабінеце. Неўзабаве мэблевая крама з’ехала з музея…

Свет зноў змяніўся, але Свіслач як цякла праз Мінск, так усё яшчэ і цячэ, а ў ёй адлюстроўваюцца самыя розныя надрэчныя дамкі.

# Тваё неба — з табой



Дар'я ЛІС

***

*Восень.*
*Верасень*
*Сінім невадам*
*Кветкі верасу*
*Цягне з вераду*
*Дзён раз'ясненых*
*І асветленых*
*Сумнай згадкаю,*
*Белым ветразем...*

**Кампрамат**

*Кроў на паперы,*
*На клёнах — таксама.*
*Кастрычнік. Цемра.*
*Мне страшна, мама...*
*Чырвоным па белым —*
*Знікае цела.*
*А людзі ў шэрым.*
*А людзі — шэрыя...*
*Чырвоным па белым —*
*Сэрцам і верай.*
*Мой верш — кампрамат.*
*На шматкі — паперу!*

***

*На Беларусі восень,*
*Кастрычнік.*
*Паветра марскога і ёду*
*Не хапае катастрафічна.*
*Апошні шанец —*
*Пазбыцца кратаў...*
*Адкуль пакора?!*
*Нямым паўторам:*
*Год 37-ы.*
*2007 глядзіць з дакорам.*
*Спыніце ката,*
*Бо прыйдзе статак*
*Ізноў з усходу...*
*І будзе позна:*
*І ўжо не спыняць*
*Арду балоты.*

***2013 г.***

***

*Яна была чалавекам шчодрых авансаў*
*І неапраўданых рынкам інвестыцый —*
*Не мама, не жонка, не каханка...*
*Не дастаткова дзелавая лэдзі.*
*Спец па барщчах? Ані...*
*Жахлівы характар? Канечне!*
*Сумесь калючак,*
*усмешак,*
*нахабства.*
*P.S. Быць — варта сабой.*
*Астатнія — падцягнуцца!*

***

*Канечне, не варта было захапляцца*
*І думаць «А раптам?»*
*Канечне, не варта...*
*Сям'я, планы, праца,*
*Два кубкі «Lavazza».*
*Ні мне, ні табе*
*Не з рукі забывацца*
*Пра простыя рэчы.*
*Жахлівы характар...*
*Навошта чапляцца*
*Навошта чапляцца?*
*Старыя кантакты.*
*Кавалачак мора.*
*Ізноўку*
*Хайэнраэтс*
*:)*

***2016 г.***

***

*Рэжым чакання — адключыць!*
*Пайсці, паехаць, разлюбіць...*
*Разбіць бясконцы нудны пазл*
*І адпусціць цябе нарэшце...*
*І адпусціць сябе дарэшты!*
*Да новых спраў і краявідаў,*
*Малюнкаў, зораў ды прывідаў...*
*Расправіць крылы, паляцець,*
*Забыць, што так балюча падаць...*
*І... Не загадваць, не загадваць:*
*Як будзе? Што далей? Чаму?*
*Табе ж самотна аднаму —*
*Без той вар'яткі, што ірвецца*
*Пабачыць то Парыж, то Рым?*
*У пошуку дакладных рыфм...*
*І вечна паміж небам і зямлёй:*
*Шукае выйсце не сабе адной,*
*Праз лабірынты.*
*Патрэбна.*

***2018 г.***

***

*Мокры горад.*
*Каштаны.*
*Масты.*
*Быццам прывід з мінулага — ты!*
*Ходзіш вулкамі мулкімі...*
*Ксты...*
*І лісты, бы за кра́тамі дым...*
*Паміраць маладым?*
*Не аб тым, але факт:*
*Паміраць страшна тым,*
*Хто не бачыў масты,*
*І каштаны,*
*І горад стары*
*З пахам кавы і кніг,*
*З катамі на дахах...*
*Тут дзяўчына танцуе — заўжды!*
*І, на жаль, гэта зноўку не ты...*
*А табе застаюцца лісты,*
*Бо за кратамі іншы,*
*Не ты.*

***

*Гэтыя хлопчыкі — дзеці цемры,*
*грахі неадмоленыя*
*сваіх дзядоў.*
*Павернешся спінай —*
*пампрэш першым.*
*Ты слабак.*
*І твой сцяг — адстой.*
*Чужыя? Свае...*
*Хочаш спэўніць?*
*Ідзі.*
*Тваё неба — з табой.*

***

*яна хацела мець сэлфі*
*на фоне рэвалюцыі.*
*баялася не паспець,*
*не дагнаць,*
*тармазнуць,*
*але рэвалюцыя*
*крыху расцягнулася*
*па восені*
*да зімы.*
*бчбшалікамі,*
*сцягамі са старых шафаў,*
*непаетымі шашалем.*



Калаж freepik.com

***

*З нуды ў адчай*
*Перапаўзаеш.*
*Марнуеш дні,*
*Не спіш начамі.*
*Ні кніг,*
*Ні дарог —*
*Маўчанне.*

***

*Я застываю ў зіме,*
*У снежна-ледзяным адчаі*
*Усё, што кажаш ты, — не мне!*
*Не мне і вершы прысвячаеш...*
*А я застыла ў зіме*
*У віне абвергнутых*
*Пачуццяў.*
*Без веры ў лета,*
*Сонца,*
*Келіх з белым — мне!*
*На стале.*
*Знікаю ў зуме,*
*Працы,*
*Без любові, —*
*Гігабайтамі адчаю.*

*Каханне быццам паветра.*
*За тысячы кіламетраў*
*Ты адчуваеш мяне.*
*Каханне*
*Жыве*
*Ў маёй*
*Галаве.*
*AVE*

***

*Тая вёска на беразе Балтыкі,*
*Крышнаіт на зялёным роварах...*
*Вы не верылі,*
*А я ведала:*
*Соль на вуснах*
*Хутка змываецца.*
*Нам застануцца сосны ля Віліі,*
*Валуны пры дарозе шэрыя,*
*А таксама надзея на лепшае,*
*Што заўжды тут канае першая.*
*Ацій, Бірутэ! Пракрастынацыя.*
*Мы прыйшлі да старых дэкарацый.*

***

*Беражыце сябе і сваіх блізкіх,*
*Не адсвечвайце*
*пры актыўнай хадзьбе.*
*І не варта мары — пад ногі.*
*І — ляціце нізка...*
*Яны знішчаюць усе*
*з-за страху саміх сябе.*

*Не будзьце назолай —*
*зірніце на зоры!*
*І, магчыма,*
*ваш шанец не спрахне*
*У адчайнай адвечнай нудзе.*
*Беражыце...*
*Беражы сябе і бяжы.*

*Я твая блізкая — чуеш?*
*Беражы.*
*Мяне беражы.*
*На мяжы...*
*У іміжы.*

*Збірай валізкі.*
*Міражы?*
*Чуеш?*
*Што там у хмарах гудзе?*

***

*Хтосьці ляціць з маста.*
*Хтосьці ідзе на вайну.*
*А дзесьці шпіталь,*
*Кіслород і ты.*
*Такі расклад.*
*Ці будзе камусьці цуд?*
*Добры калядны цуд?*
*Кагосьці чакае турма.*
*Хтосьці памрэ маладым.*
*Дарма.*
*Патрэбен ты*
*(І камусьці — цуд!).*
*Дыхай мацней.*
*І проста вярніся*
*Жывым.*
*Там снег.*

***

*Ты не ў форме — факт.*
*Не жывеш,*
*Не працуеш,*
*Не любіш...*
*Вось гэты прасцяг,*
*Гэты лес —*
*што там яшчэ будзе?*

*Ты не можаш сказаць:*
*Дрэнна мне, людзі!*
*Я — пас, ніякага драйву...*
*Стамілася, згас той запал,*
*Што заўжды*
*Проста быў ува мне.*

*Ты не можаш сказаць пра сваё...*
*Каму? Таму, хто ўжо ў турме*
*Спіць на голых прутах...*
*Едзе дах без сяброў і кніг.*
*Не даходзяць лісты.*
*І гэта не катаванне, яшчэ не...*
*Проста знаёмы да болю страх.*

*Ты не можаш сказаць ім*
*Пад небам, адкуль ні снег*
*Ні дождж. Хто жыве ў падвале*
*Сырым, а раней на 10-м жыў.*
*Ты баішся вышыні,*
*Самалётаў і ліфтаў.*

*Ты нікому не можаш*
*Сказаць пра свой жах, ціск,*
*Дэпрэсіўных мастакоў*
*І нізкі гемаглабін.*
*Ты не можаш сказаць ім.*
*Там прастрэльваюцца нават сны.*

***

*Заснежаны хутар,*
*Агонь у каміне*
*І кава...*

*Мой сябра сядзіць у турме.*
*Год быў жорсткі на нас.*
*Неласкавы.*

*Нават летам — зіма!*
*Заснежвала сны.*
*Паглядала ў вочы...*

*Кніжнікаў,*
*Шукальнікаў,*
*Ідэалістаў.*

*Абыякава і ўпарта.*
*Наперад ішла.*
*Расстрэльвала зблізку.*

***

*Зіма за вокнамі,*
*Трывога ў сэрцы.*
*Як адагрэцца нам*
*І не згубіцца?*

*У гэтым снежным свеце.*
*На градусніку нуль пяшчоты,*
*Па адчуваннях мы*
*Сышлі ў мінус ці не назаўжды.*

*Такія халады*
*І абыякавасць*
*Вачэй і рук дваіх.*

***2020—2022 гг.***

# СТЭФАН БАТОРЫЙ, або КАРОТКІ ШЛЯХ

## Трагедыя ў адным акце, сямі карцінах



Віктар ВАРАНЕЦ

***Дзейныя асобы:***

*Стэфан Баторый — кароль польскі, Вялікі князь літоўскі.*
*Каралева Ганна — жонка Стэфана Баторыя.*
*Альжбэта — сялянка, каханка Баторыя.*
*Міхал — бацька Альжбэты.*
*Марыя Чартарыжская — фрэйліна каралевы Ганны.*
*Мікалай Бучэле — лекар Баторыя.*
*Сімоніус — хатні лекар Баторыя.*
*Фёдар Іаанавіч — цар усяе Русі і Вялікі князь Маскоўскі.*
*Барыс Гадуноў — бліжні вялікі баярын, намеснік Казанскага і Астраханскага царстваў.*
*Манах Іёва — беглы з Вялікага Княства Літоўскага.*
*Якуб — паляўнічы Баторыя.*
*Ігнат — целаахоўнік Баторыя.*
*Вішнявецкі, Кавальскі, Сапега — шляхта Рэчы Паспалітай.*
*Шляхта, блазны, карлы, слугі.*

*Падзеі адбываюцца ў XVI стагоддзі.*

### Карціна першая

*Маскоўскі Крэмль. Гранавітая палата. У крэсле сядзіць цар Фёдар Іаанавіч. Насупраць на нізенькім услончыку месіцца стары манах.*

Манах. І круглы год там стаіць лета. А таму нікому з людзей не патрэбна адзенне. І ежа расце сама з зямлі. Вось, гасудар, ніхто з іх і не працуе. Толькі плятуць вянкі і скачуць праз вогнішча.

Фёдар Іаанавіч. Ці моляцца яны нашаму госпаду Богу?

Манах. Даруй, гасудар, але паганцы яны і моляцца каменным ды драўляным ідалам, лічачы іх за Бога

Фёдар Іаанавіч (хрэсціцца). Ратуй, Божа, іх душы. А ці ёсць, дзядуля, у іх сем'і?

Манах. Жывуць яны ўсе разам, і мужыкі і бабы, у вялікіх хіжынах, і ніхто не ведае, чыіх дзяцей тыя бабы нараджаюць.

Фёдар Іаанавіч. Божухна, якое паскудства робіцца ў свеце. Дзякуй табе, Божа, што даў нам нарадзіцца на гэтай спакойнай зямлі.

*Рыпнулі дзверы, і на парозе з'явіўся бліжэйшы дарадчык расійскага самадзержца Барыс Фёдаравіч Гадуноў. Манах тут жа ўскочыў з услончыка, нізка пакланіўся і выслізнуў з пакоя.*

Гадуноў. Вітаю цябе, гасудар. Ці добра адпачываў ты? Ці не сніўся адзінарог? Ці да душы была служба ў царкве?

Фёдар Іаанавіч. Барыс, як шкада, што ты так позна прыйшоў і не чуў манаха. Ён мне пра райскія землі расказваў. Вось куды б я злятаў, каб мог ператварацца ў птушку. А чаму ж чалавек не можа лятаць?

Гадуноў. Так ужо Бог вырашыў: птушкі павінны лятаць, а чалавек хадзіць. А цар яшчэ і думы думаць за ўсіх.

Фёдар Іаанавіч. Ах, а ўсё ж шкада, што мы не можам лятаць. А ці даведаўся ты, што сёння мне пададуць на абед?

Гадуноў *(кланяючыся)*. Гасудара чакае юшка, бацвінне, вусны лася ў заліўцы, смажаная дзічына, кулябяка, каша, заедкі.

Фёдар Іаанавіч. Ах, як добра. А царыцу не забылі пазваць?

Гадуноў. Царыца марыць убачыць свайго супруга. *(Падышоў бліжэй і амаль зашаптаў на вуха.)* Гасудар, лазутчыкі данеслі, што на нас вайною збіраецца ісці гэты нягоднік польскі кароль Сцяпан Баторый.

Фёдар Іаанавіч. Ах, адслужым абедню, Бог і не дапусціць сюды палякаў. Памятаеш, як наслаў на іх мароз пад Псковам. І гэтым разам што-небудзь нашле. Таму не бойся, баярын, пайшлі лепш абедаць.

*Гадуноў доўга глядзіць услед цару, затым, як бы схамянуўшыся, выходзіць са святліцы.*

### Карціна другая

*Невялічкі пакой. Пасярэдзіне стаяць стол і дзве лавы. Акенцы адсутнічаюць. На стале гарыць свечка. На лаве сядзіць той жа стары манах. Убачыўшы Гадунова, манах устаў. Баярын сеў насупраць і рукой паказаў, каб сядаў і госць.*

Гадуноў. Ну што, Іёва, як я і казаў, цару больш цікавы абед з царыцай, чым хуткая вайна з Польшчай. А ваяваць нам цяпер ніяк нельга. Казна пустая, войска малое, Шуйскія толькі і чакаюць, каб я аступіўся. Якая ж тут вайна?

Манах. Вайны хоча Баторый. Не будзе Баторыя — не будзе і вайны. Лягчэй знішчыць важака, чым усю зграю. Як у ваўкоў.

Гадуноў. І што ты прапануеш, Іёва?

Манах. Калісьці, вельмі даўно, я вучыўся ў Падуі з адным цікавым хлопцам, які называў сябе Мікалаем Бучэле. Ён шмат чым абавязаны мне і, што самае галоўнае, прагна любіць грошы.

Гадуноў. Ну і чым нам можа дапамагчы гэты Бучэле?

Манах *(ледзь прыкметна ўсміхнуўшыся)*. Мікалай Бучэле — адзін з двух лекараў Баторыя.

Гадуноў. І ты можаш яго купіць?

*Манах моўчкі ківае галавой.*

Гадуноў. Цудоўна. Заўтра ж адпраўляйся ў Польшчу, адшукай свайго знаёмага і дай яму грошай.

*Іёва падняўся і зноў моўчкі кіўнуў.*

Гадуноў. Слухай, манах, даўно хацеў запытацца: а чаму ты, ліцвін, нам дапамагаеш? Грошы цябе, бачу, асабліва не цікавяць. Тады чаму?

Манах. Бо я сапраўды ліцвін, і я не прымаю здрадніцкую Люблінскую унію. Калі гэта што гаворыць табе, баярын.

*Гадуноў абыякава пацiснуў плячыма...*

### Карціна трэцяя

*Зала каралеўскага палаца. Пасярэдзіне стаіць вялікі стол з рознымі напоямі і ежай. Чуюцца галасы. Уваходзіць група паляўнічых. Усе ажыўлена размаўляюць. Наперадзе Стэфан Баторый. Следам слугі прыносяць тушу вялізнага дзіка. Кладуць на падлогу. Насустрач выходзіць жонка караля. Яна ўстрывожана. Бярэ руку караля, цалуе яе.*

Каралева. Ваша высокасць, слугі сказалі мне, што Ваша жыццё было пад пагрозай.

Баторый. Глупствы. Паляванне як паляванне.

*Да іх падыходзіць адзін стары паляўнічы.*

Якуб. Калі вяльможная пані дазволіць, я раскажу пра гэтае звычайнае паляванне.

Баторый. Зноў ты, Якубе, будзеш палохаць каралеву сваімі байкамі.

Каралева. Я слухаю цябе, Якуб, і нічога не ўтойвай ад мяне.

Якуб. Слухаюся, мая гаспадыня. Мы сядзелі на конях паўмесяцам, трымаючы ў руках доўгія дзіды. Брэх сабак у лесе паволі набліжаўся да вершнікаў. Праз якую хвіліну на паляне павінна была з'явіцца дзічына, якую цеснулі загоншчыкі. І тут з хмызняку выйшаў велічэзны сякач. Памерамі дзік быў падобны на вялізны валун. Яго вочы гарэлі шалёным чырвоным полымем. Следам з гушчару выскачылі два загоншчыкі з трашчоткамі. Адзін з іх ледзьве не наскочыў на дзіка і ад нечаканасці замёр на месцы. У руцэ ўсё яшчэ круцілася непатрэбная трашчотка. Раз'юшаны дзік рэзка павярнуўся да загоншчыка, умомант збіў таго на зямлю і вострымі кіламі ўпіўся ў небараку. Праз імгненне з хлопцам было скончана. А з лесу нарастаў брэх сабак. І тады сякач з усяе моцы кінуўся наперад да бліжэйшага вершніка. Ім і быў наш пан. Але наш слаўны кароль не разгубіўся, замахнуўся дзідай і глыбока ўбіў яе ў карак кабана. Звер жа, быццам і не адчуваючы болю, увагнаў прагныя кілы ў круп каня. Конь захрыпеў і пачаў завальвацца на бок. Кароль спрытна саслізнуў са спіны каня, кульнуўшыся праз плячо, выхапіў доўгі паляўнічы нож і рубануў па горле дзіка. Сякач працягла захрыпеў і задрыжаў у канвульсіях, не ў змозе ўжо выцягнуць свае кілы з крупа паверджанага каня.



Кароль Стэфан Баторый

Каралева. Дзякуй табе, Божа, што захаваў жыццё майму каралю! Стэфан, абяцай мне, каханы мой муж, што будзеш больш асцярожным на гэтых паляваннях.

Баторый *(усміхаючыся)*. Абяцаю, мая каралева. Але ты толькі пагляздзі, якога вепра я заваліў. Ці ж не цуд гэта?

Каралева. І глядзець баюся ў той бок. Існы жах!

Баторый. Прашу яснавяльможнае панства да стала. Аддзячым пану Богу за добрае паляванне кубкам такога ж добрага віна.

*Усе сядаюць за стол. Устае граф Вішнявецкі.*

Вішнявецкі. Ці дазволіць наш слаўны гаспадар сказаць слова?

Баторый. Так, мой дружа, мы слухаем цябе.

Вішнявецкі. Шаноўная шляхта! Мы ўсе тут вольныя людзі вольнай зямлі, што носіць добрае імя Рэчы Паспалітай. Але як у кожнай сям'і ёсць бацька, які любіць сваіх дзяцей і дбае пра лёс, слова якога — закон для кожнага ў доме, так і сярод нас, роўных паміж сабою шляхціч аў, ёсць галоўны, які стаў для ўсіх нас сапраўдным бацькам. І я падымаю гэты кубак за бацьку нашага, за слаўнага караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя! Віват, панове!

Шляхта. Віват! Віват!

Баторый. Дзякуй за добрае слова, пане Рамане! Але час пакаштаваць нашых трафеяў! Прашу, панове!

*Усе частуюцца, гамоняць. Каралева звяртаецца да Баторыя.*

Каралева. Пане мой, я чула, што ты збіраеш войска ісці на Масковію. Ці праўда гэта?

Баторый. Праўда, мая каралева. Але чаму цябе цікавіць гэтая мужчынская справа?

Каралева. Ах, Стэфан, Маскоўскае царства як вялікая бездонная яма, упаўшы ў якую, ужо ніколі не дастанеш нагамі цвёрдай зямлі. Я вельмі хвалююся за цябе.

*Баторый абдымае жонку.*

Баторый. Усё гэта жаночыя глупствы. Масковія слабая, спустошаная і абабраная сваімі ж баярамі. І ўзяць яе сёння можа любы. Дык чаму гэта не буду я? І ўвогуле, мая каралева, гэтыя пытанні не для жаночага розуму. Я сам вырашу, калі і куды пойдзе маё войска.

Каралева. Даруй мне, мой пане, маю нястрыманасць. Проста я вельмі хвалююся за цябе. А тут яшчэ гэты вепр. Калі ты не супраць, я падымуся ў свае пакоі.

Баторый. Так, пані, адпачывай. Калі трэба, я прышлю да цябе лекара.

Каралева. Не, мой кароль, усё і так пройдзе. Я буду чакаць майго пана, як і заўсёды...

*Каралева адыходзіць. Баторый падымае кубак.*

Баторый. Яснавяльможная шляхта! Падымаю гэты кубак за вас, маіх адданых і верных сяброў! Мы шмат чаго зрабілі, але хутка нас чакаюць падзеі, якія назаўсёды пакінуць нашы імёны ў гісторыі! За вас!

Шляхта. Дзякуй, пане! За волю! За Рэч Паспалітую!

Кавальскі. Ці дазволіць мой кароль задаць пытанне, якое цікавіць усіх прысутных?

Баторый. Слухаю цябе, пане Адаме.

Кавальскі. Ці праўда, што слаўны Стэфан Баторый збіраецца перанесці сталіцу Рэчы Паспалітай з вольнага Кракава сюды, у Гародню?

Баторый. Што я адкажу табе, граф. Не я прызначаў Кракаў сталіцай каралеўства, не мне гэта і адмяняць. Таму Кракаў быў, ёсць і будзе галоўным горадам Рэчы Паспалітай. Але каралі таксама людзі і таксама маюць свае слабасці і ўпадабенні. І Гародня для мяне стала такім горадам, дзе вольна дыхаецца, шчасліва жывецца і дзе цябе заўсёды чакаюць. А якое тут багатае паляванне! І я вельмі хачу, каб і вы, сябры мае, палюбілі ўсёй душою гэты горад. Таму я і планую кожны трэці сойм праводзіць у Гародні. Вы са мной, панове?

Шляхта. Так, пане! За Баторыя! За Гародню!

Сапега. А мы ўсе чакаем, калі наш кароль павядзе нас на Масковію.

Шляхта. Так, смерць праклятым схізматыкам! За шляхецкія вольнасці!

*Да караля падыходзіць яго целаахоўнік Ігнат.*

Ігнат *(нахіліўшыся над галавой Баторыя)*. Няхай мне даруе мой кароль, але Вашу міласць чакае ў кабінеце пані Альжбэта.

*Кароль падымаецца і крочыць за Ігнатам.*

### Карціна чацвёртая

*Па кабінеце нярвова праходжваецца маладая прыгожая жанчына. Імклівa ўваходзіць Баторый.*

Баторый *(абдымае жанчыну)*. Аля, каханая мая! Як я сумаваў па табе!

Альжбэта. І я не магла дачакацца майго пана! Стэфане, каханы мой...

Баторый *(садзіць Альжбэту ў крэсла, сядае насупраць, бярэ яе рукі ў свае далоні)*. Як ты сябе адчуваеш? Як наша Аглая, любімая дачка?

Альжбэта. Усё добра, мой кароль. Аля ўжо пачала хадзіць і нават гаворыць "тата". Яна таксама сумуе па бацьку.

Заканчэнне на стар. 7 »

# СТЭФАН БАТОРЫЙ, або КАРОТКІ ШЛЯХ

## Трагедыя ў адным акце, сямі карцінах

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

Баторый. Мілая мая, як жа я хачу яе пабачыць. Чаму ты не прынесла маю дачку?

Альжбэта. Гэта небяспечна, Стэфан. Яна яшчэ маленькая, а дарога няблізкая. Ды і тут мог хтосьці заўважыць.

Баторый. Я тут гаспадар! І ніхто без майго дазволу не вымавіць і слова.

Альжбэта. Так, мой дарагі, але мы з дачкой хацелі б пабачыць цябе ў нашым новым дамку, што ты загадаў пабудаваць у Свіслачы. Мы так цябе чакаем!..

Баторый *(садзіць жанчыну на калені)*. Я абавязкова днямі прыеду да вас і застануся на ноч. Раскажы гэта маёй дачцэ. А зараз мне трэба вяртацца да дружыны. Да сустрэчы, каханая.

*Баторый цалуе Альжбэту і выходзіць з пакоя. З'яўляецца Ігнат, бярэ Альжбэту за руку і выводзіць з пакоя. Адсоўваецца фіранка на акне. Выходзяць каралева і яе фрэйліна Чартарыжская.*

Чартарыжская. Вось і пацвердзіліся мае словы, што ў караля ёсць каханка.

Каралева *(задумліва)*. Тое, што ў Стэфана ёсць каханка, я не сумнявалася. Колькі пабывала іх тут, у Гародні, пакуль я жыла ў Кракаве... Ды і ў якога караля не было каханкі? Яны з'яўляюцца і адыходзяць, а каралевы застаюцца назаўсёды. Але вось тое, што ў іх ёсць дачка, значна абцяжарвае справу. Гэта ўжо кайданкі, пастка на любога мужчыну. І яшчэ невядома, хто пераможа: сялянка з дзіцем ці бяздзетная каралева. Не, з гэтым цягнуць нельга. Марыя!

Чартарыжская. Я слухаю маю пані.

Каралева. Тэрмінова даведайся, адкуль узялася гэтая Альжбэта, хто яна і з кім жыве ў Свіслачы.

Чартарыжская. Слухаюся, мая пані. Але дазволю сабе заўважыць, што кароль сапраўды кахае гэтую сялянку. І таму трэба дзейнічаць вельмі асцярожна.

Каралева. Жонка даецца панам Богам, і ніхто іншы не мае права пасягаць на яе законнага мужа. Я чакаю, Марыя, падрабязнай інфармацыі.

Чартарыжская. Так, мая пані.

Каралева. І перадайце вось гэтыя грошы Сіманіусу, каб лепей сачыў за нашым гаспадаром і не забываўся інфармаваць пра ўсё мяне. А інакш замест грошай ён хутка ўбачыць сваю галодную Італію.

Чартарыжская. Сіманіус такі прыгажун, проста шкада яго крыўдзіць, ваша вялікасць.

Каралева. Ну калі шкада, дык і ты, Марыя, з ім паедзеш у тую Італію, калі, канешне, возьме цябе з сабой.

Чартарыжская. Пані хоча пакрыўдзіць адданую ёй Марыю?

Каралева. Пані хоча захаваць сваю сям'ю, а дзеля гэтага пераступіць праз любога.

*Жанчыны сыходзяць. З'яўляецца Сіманіус.*

Сіманіус. А кажуць, падслухоўваць непрыгожа. Столькі пачуў карыснага для сябе. Значыць, пра каралеўскую каханку ведае ўжо і каралева. Ну, гэтага варта было чакаць — усе слугі ўжо ведаюць. А вось наконт мяне каралева дарэмна прагаварылася. Толькі кароль мяне можа выратаваць. Вось з ім і пагаворым. У Італію яна мяне сашле... Яшчэ пабачым, ці раней не адправіць цябе Баторый у Кракаў.

*Знікае за дзвярыма.*

### Карціна пятая

*Пакой сялянскай хаты. Стол, лавы, печ. На лаве сядзіць стары Міхал, бацька Альжбэты. Уваходзяць Баторый і Альжбэта.*

Альжбэта. Стамілася дачушка, на хаду і заснула. Ты адчуў, Стэфан, як яна была радая бачыць цябе? Няспынна паўтарала «Тата! Тата!».

Баторый. Так, прыгожая дзяўчынка. Уся ў маці.

Міхал *(падняўшыся)*. Праходзьце да стала, ваша вялікасць. Аля, усадзі нашага вяльможнага госця.

Альжбета. Які ён табе госць, бацька. Ён тут такі ж гаспадар, як і мы з табой.

Баторый *(сядае на лаву)*. Прысядзь, Аля, і ты каля мяне. Як жывеш, Міхал? Як лес, паляванне?

Міхал. Дзякуй, пане, усё ў нас добра. Вашай ласкай і хату гэтую справілі, і гаспадаркай абзавяліся, і здаровыя ўсе. А лес чакае пана на паляванне, як бывала. Пад Гарнастаевічамі статак зуброў стаіць. Такія волаты, адзін да аднаго. Аж просяцца на дзіду.

Баторый. Гэта добра. Абавязкова, Міхал, выберамся на тваіх зуброў. Але пакуль іншы звер мяне чакае, вось на яго і запалюем. Але бачу, аб чымсьці запытацца мяне хочаш. Ці так, мой стары паплечнік?

Міхал. Так, пане, вельмі хачу, але баюся, што ты раззлуешся.

Альжбэта. Дык і не пытайся тады. Чаго табе старому не стае? Хату маеш, худоба стаіць у хляве. Хлебам поўніцца гумно. Жывы і радуйся.

Баторый. А ты пачакай, Аля, памаўчы, пакуль мужыкі размаўляюць. Не бойся, Міхал, смела гавары, што на сэрцы накіпела.

Міхал. І скажу, пане. Бо не пра мяне гаворка, а пра жыццё і лёс маёй унучкі.

Баторый. А што з ёй не так?

Міхал. А ты, пане, сам паглядзі. Сёння-заўтра паедзеш ваяваць Масковію. Дай Бог табе жыцця і перамог над ворагам, але ўсе мы ходзім пад Госпадам. Тым больш на вайне. А калі заб'юць цябе?

Баторый. На ўсё воля Божая. Заб'юць ды і заб'юць. Табе што з гэтага?

Міхал. Мне, можа, і нічога, але што станецца з маёй унучкай? Без пана яна стане ўсім толькі замінаць, паколькі з'яўляецца байстручкай, але каралеўскай крыві. А выгадаваць, выхаваць, даць добры пасаг для ўдалага замужства... Хто гэта ёй дасць? Даруй, пане, за маю шчырасць.

Альжбэта. Бацька, нам нічога гэтага не трэба. Ёсць жа хлеб надзённы, і дзякуй Богу! Аглая вырасце прыгожай працавітай дзяўчынай і знойдзе сабе добрага хлопца. А Стэфан будзе на вайне асцярожным, праўда, каханы?

Баторый *(падняўся, прайшоўся па пакоі)*. Стары праўду сказаў. Усе мы смяротныя і абавязаны пры жыцці падумаць пра ўсё. Адтуль не вернешся дарабіць нязробленае. Так, Аля, я не планую хутка памерці, але сапраўды ўсё ў руках Божых, і таму пра вас з дачкой паклапаціцца абавязаны цяпер. Сваёй дачцэ я купіў праз давераных асоб маёнтак у Косаве. Да дасягнення Аглаяй паўналецця кіраваць ім будзе эканом Бранявіцкі, чалавек мне адданы і надзейны. Грошай з прыбытку вам, думаю, хопіць. А табе, любая мая Аля, я аддаю маёнтак у Новым Дварах. І няхай за ім прыглядае твой бацька. Чуеш, Міхал?

Міхал. Так, ваша светласць. Але які з мяне эканом? Я ж усё жыццё пражыў у лесе.

Баторый. А я вам і купіў вялікі кавалак лесу з возерам і лугам. Вось і прыглядай за гэтым.

Альжбэта. Дзякуй, мой пане, за такія шчодрыя падарункі. Але нам апроч цябе нічога і нікога не трэба.

Баторый. Я ведаю, каханая, але і ты зразумей: кола жыцця не павярнуць назад, і змяніць гісторыю немагчыма. Так, я буду кахаць цябе ўсё жыццё, але быць заўсёды разам мы не можам. І каралева не пальчатка, з рукі не скінеш. Ты разумееш мяне?

Альжбэта. Так, пане, я ўсё разумею. Даруй мне, дурной кабеце, што тлумлю табе галаву сваёй глупотаю. Але я так цябе кахаю!

Баторый. Праводзь мяне, Аля, да стайні. Час рушыць у Гародню.

*Выходзяць з хаты.*



Цар Фёдар Іаанавіч

### Карціна шостая

*Пакоі замка. Сядзяць каля каміна Баторый і каралева.*

Каралева. Стэфан, ты сябе не беражэш. Ледзь не загінуў на апошнім паляванні — і зноў паехаў у пушчу, дзе безліч небяспечнага дзікага звяр'я ды яшчэ, кажуць, розныя злодзеі на людзей палююць. А ты яшчэ і без аховы, паляўнічых. Што за справы таямнічыя?

Баторый. Я, Ганна, кароль, і мой абавязак думаць пра ўсё каралеўства. Мы рыхтуемся да вялікай вайны, і я павінен быць падрыхтаваны і ўпэўнены, што не будзе ніякіх перашкодаў. Таму і правяраю, ці дастаткова сабрана прыпасаў, як узброена войска, ці хопіць коней. А што цябе раптам зацікавіла маё падарожжа? Раней, знаходзячыся ў Кракаве, ты ніколі не звяртала ўвагі на такія дробязі. Можа, ты засумавала па сталіцы і хацела б вярнуцца ў Кракаў?

Каралева. Але ж не, Стэфан, наадварот, я столькі цікавага тут убачыла, столькі новага даведалася. І ты для мяне тут, у Гародні, паўстаеш зусім іншым.

Баторый *(насцярожана)*. І што ты даведалася? І ў чым я іншы?

Каралева. Раней ты любіў вечарамі пасядзець са мной, падзяліцца планамі і трывогамі. Ты шмат расказваў пра свае паездкі. А цяпер кудысьці знікаеш, часта пазбягаеш майго таварыства. Можа, ты закахаўся, Стэфан? Такое здараецца з мужчынамі ў тваім веку.

Баторый *(раздражнёна)*. Ваша вялікасць, здаецца, пачынае пісаць раманы. Адкуль такія фантазіі: закахаўся, знікаеш, у такім веку? Я кароль, і ў мяне хапае дзяржаўных пытанняў. Паўтараю: пачалася падрыхтоўка да вайны з Масковіяй, а гэта войска, харчаванне, зброя. Нельга ўпусціць ні адной дробязі. А тут Вы, Ганна, са сваімі глупствамі! Ехалі б ужо ў Кракаў прыглядаць за парадкам у Польшчы.

Каралева *(падыходзіць да Баторыя, прыціскаецца шчакой)*. Даруй, Стэфан, калі чымсьці пакрыўдзіла цябе. Я, напэўна, раўнівая, як і ўсе закаханыя кабеты. Але я не хачу дакучаць табе, і калі ты лічыш, што мне лепш з'ехаць, няхай так яно і будзе. Праз два дні я адпраўлюся ў Кракаў.

*Выходзіць. Баторый падыходзіць да стала, налівае кубак віна і вяртаецца ў крэсла. Уваходзіць хатні лекар Мікалай Бучэлэ.*

Бучэлэ. Ваша мосць зноў п'е віно? Вам жа катэгарычна нельга. Ці памятае кароль свой апошні прыступ «incapitisaffectionem»? Віно толькі пагаршае Ваш стан.

Баторый. Дзіўна, але твой калега Сіманіус наадварот кажа, што віно ма́е гаючыя ўласцівасці. Вось я і лячуся. Дарэчы, дзе ён?

Бучэлэ. Гэты блазан ад медыцыны, Ваша моц, дзесьці швэндаецца па мясцовых кабетах, замест таго, каб займацца справамі. Чаго Вы трымаеце яго пры сабе? Яго месца на стайні коней лячыць.

*Ставіць на стол саквояж. Дастае нейкія шклянкі, бутэлечкі. Налівае настой.*

Баторый. Зноў нейкую агіду творыш, Мікалай. Вось сам і пі яе!

Бучэлэ. Тым не менш я настойліва прашу, мой кароль, выпіць гэты лячэбны напой, каб віно не справакавала новы прыступ.

Баторый *(з хвіліну пільна глядзіць на лекара)*. Ну раз настойліва просіш, тады добра, вып'ю.

*Выпівае. Бярэ са стала нейкую паперу, пачынае чытаць, але засынае. Бучэле, задаволена ўсміхаючыся, знікае.*

*На сцэну выходзяць па розныя бакі Сіманіус і Бучэлэ.*

Сіманіус. 6 снежня. Кароль з раніцы скардзіцца на цяжкасці ў грудзях, удушша і адчуванне, што яго кусае блыха.

Бучэлэ. 7 снежня. Нягледзячы на нашу забарону, кароль на кані едзе ў царкву. З вечара адчувае гарачку ў галаве. У яго няма апетыту. Аднак выпівае дзве шклянкі моцнага віна. Не можа спаць. Гуляючы па палацы, губляе прытомнасць, разбівае калена.

Сіманіус. 8 снежня. У Баторыя моцны прыпадак.

Бучэлэ. 9 снежня. Увечары ў караля адбываецца новы прыпадак у спалучэнні з удушшам і сутаргамі. Я дыягнастую падучку.

Сіманіус. 10 снежня. Караля наведваюць канцлеры. Каралю крыху лепш. Але ўначы здараюцца новыя прыпадкі. Слуга намагаецца прывесці караля да свядомасці, адкрываючы яму рот, каб палегчыць дыханне. Мы з Бучэле паспрачаліся пра карысць віна. Я ўпэўнены, што кароль пакутуе на дыхавіцу.

Бучэлэ. 11 снежня. У караля спынілася мочаспусканне. П'е толькі ваду са спецыямі. Зноў быў прыступ.

Сіманіус. 12 снежня. Кароль вельмі слабы. У замак з'ехаліся сенатары. Кароль сказаў Бучэлу: «Аддаю сябе ў рукі боскія», — аднак апошнія таінствы адкладаюцца на заўтра. Падчас другога прыступу жыццё караля абрываецца. Мы страцілі Стэфана Баторыя, вялікага караля Рэчы Паспалітай!

### Карціна сёмая

*Палаты Крамля. Фёдар Іаанавіч займаецца сваёй любімай справай: гуляе з блазнамі і карлікамі. Ён весела рагоча, калі аднавокі карлік ускочыў на спіну апранутай у чорта карліцы.*

Карлік. Грэшніка чорт у пекла вязе!

Блазны. Гані грэшніка! Я чорт!

*У дзвярах з'яўляецца Барыс Гадуноў. Карлікі імгненна схаваліся пад лаву. Фёдар Іаанавіч з той жа цікавасцю, што і на блазнаў, стаў глядзець на баярына.*

Гадуноў. З добрай весткай прыйшоў я, гасудар!

Фёдар Іаанавіч. Прывезлі абяцанага вярблюда з Самарканда?

Гадуноў. Яшчэ лепей, бацюшка! Польскі кароль Стэфан Баторый памёр ад невядомай хваробы! Вайны не будзе...

Фёдар Іаанавіч *(расчараванa)*. Так сабе вестка... Я ж табе казаў: шчыра памолімся — і Бог адверне ад нас ворага. Так яно і сталася. Даведайся лепей, калі прывязуць таго вярблюда. Гэй, блазны, а ну вылазьце з-пад лавы!

*Зноў пачалася царская пацеха.*

Гадуноў *(шэптам)*. Кароль памёр. А блазан застаўся...

**Заслона.**

# Час сонцастаяння



Мікола КАНАНОВІЧ



Фота freepik.com

***

*Па сваіх былых гаспадарах*
*плачуць вішні белымі слязамі...*

***Рыгор Барадулін***

*Цвітуць зноў вішні ў садзе маладым.*
*Пабелім дрэўцы, лепей будзе ім,*
*Жывуць, растуць хай новаю вясной*
*З усёй сваёю прагай маладой.*
*Аддзячаць летам вішні нас пладамі,*
*Іх будзе больш і больш расці з гадамі,*
*А час міне, паставяць крыж над намі —*
*Заплачуць вішні белымі слязамі.*

***

*Зеляніна халоднага траўня*
*Лета чакае.*
*Сады адцвітаюць дазвання —*
*Лета гукае.*

*У лесе зязюля кукуе*
*Штодзённа зацята.*
*Быццам пытае й адказу не чуе,*
*Дзе яе птушаняты?*

*Травень зялёны. Рэдкае сонца.*
*Халодныя ночы.*
*Салоўка ляніва выспеўвае скворца,*
*Да лета ахвочы.*

*Хочуць цяпла расліны і людзі —*
*Вясной схаладалі...*
*Лета наступіць. Цяпло яшчэ будзе —*
*Толькі б прыждалі!*

### Час летняга сонцастаяння

*Час летняга сонцастаяння.*
*Чэрвень падоўжвае дні.*
*Шукаем выратавання*
*Ад нашай бязмежнай любві.*

*Шукаем дзе-кольвечы ценю,*
*Бо сонца галовы пячэ,*
*І целы нязносна пацеюць,*
*І пот наш па целах цячэ.*

*Яшчэ мы шукаем кахання,*
*Хто можа кахаць і хто не.*
*Шукаем выратавання*
*На нашай міжсобскай вайне.*

*Час летняга сонцастаяння —*
*І ныюць зубоў карані.*
*Ды зжытыя зубы дазвання*
*Не вырастуць зноўку ані.*

*Шукаем хто зубы, хто шчасце,*
*А часта — таго і таго,*
*А ў выніку пошукаў — наце:*
*Ні гэтага вам, ні таго.*

*Час летняга сонцастаяння —*
*Падоўжыўся дзень і замёр.*
*Кароткаю ноччу каханне*
*Струёй сваёй ловіць бабёр.*

*Ёсць у бабра свая хатка,*
*Бабрыха свая ў яго ёсць,*
*А па суседству — каханка,*
*Дзе часты бабёр вельмі госць.*

*Такое баброваe шчасце.*
*У нас жа й такога няма.*
*Нам ноччу кароткай паспаць бы,*
*А днём — працаваць задарма.*

*Час летняга сонцастаяння.*
*Чэрвень падоўжвае дні.*
*Не знаходзім выратавання*
*Ад нашай бязмежнай любві.*

### Ода дажджу

*Ода дажджу і ветру*
*Кладзецца ў скарбонку лету.*
*Суткі ўжо ідзе дождж*
*І няхай яшчэ будзе больш*
*Ціхага, цёплага, грыбнога*
*Многа...*
*Тут смажыла месяцы з два,*
*Пагарэла была трава,*
*Асабліва на ўзгорках.*
*Хадзіць стала колка,*
*Глядзець было нудна —*
*Дзе жоўта, дзе руда.*
*Там цяпер зелянее брава*
*Згарэлай травы атава.*
*А ў лесе растуць грыбы*
*І дух стаіць баравы...*
*Ода дажджу і ветру*
*(Які гэты дождж дапетрыў)*
*Кладзецца ў скарбонку лету.*
*Хай суткі ідзе і больш*
*Наш жыццядайны дождж.*

***

*Разбуджаны ветрам і музыкай мухі,*
*Слухаю гукі —*
*Вецер на вуліцы, у хаце жужжанне.*
*Ранак. Світанне.*

*Лета разгар, ды яшчэ не палова,*
*Яшчэ целы сонца пагрэе па-новай,*
*І дождж, што на суткі быў зарадзіў,*
*Не раз яшчэ вернецца ўсім наўздзіў...*

*Чакаюць цяпло, лес, грыбы, ураджаі*
*Усіх, хто не згубіцца ў нашым раздраі*
*Ды выжыве ў родным да болю краю*
*Й каго не забралі.*

***

*А заўтра дождж і мокры снег,*
*І да пяці цяпла.*
*Такі вось студзень, як на смех,*
*Такая ў нас зіма.*

*Даўно не радуе прагноз —*
*Забыцца на яго.*
*За шчокі каб узяў мароз*
*Знянацку усяго!*

*Каб зноў павеяла зімой*
*І студзень астудзіў*
*Раскісласць гэткаю парой*
*Душы тваёй наўздзіў.*

*...Была калісь зіма зімой,*
*Дрэвам трашчаў мароз.*
*Была, была ж яна, пара,*
*Харошаю да слёз!*

*Змяніўся клімат і жыццё,*
*Як быццам край не той! —*
*Такое робіш адкрыццё*
*Вясноваю зімой.*

### Паэт і вершы

*Пішаш вершы — грэшны першы,*
*А не пішаш, то другі.*
*Хто святы, а хто тут грэшны? —*
*Прэ ўсіх нас праз берагі.*
*У паэта ўся планета*
*І галактыка ў руках,*
*Пакуль любіць хтось паэта,*
*Пакуль просіць: «Напішы*
*Пра мяне верш адмысловы,*
*Так, як любіш, напішы...».*
*І паэт старацца рады,*
*Не патрэбны тут загады.*
*Ён напіша ўсё, як ёсць*
*Пра каханне, слёзы, млосць.*
*А ці грэшны, ці святы? —*
*Не пытайся лепей ты.*

### Летні ранак у горадзе

*Сабака спіць на сонцы залаты*
*І ўсміхаецца праз сон сваёй пякноце.*
*На даху дрэмлюць сцішана каты,*
*Цяпло катоў змарыла ў іх ляноце.*

*А птушкі гучным шчэбетам сваім*
*Збудзіць спяшаюць гэты летні ранак,*
*І ўжо выходзяць людзі па адным*
*У горад, адмяніўшы свой сняданак.*

*Аўтобус першы хутка праімчыць,*
*Жыццё працягнецца*
*ў адвечнай кругаверці...*
*Ды марш з вайсковай часткі загучыць*
*Так недарэчна напамінам смерці.*

### Апошні гаспадар

*Туманна-вільготнае лета*
*Аціхла нядаўнім дажджом,*
*У садзе — ападкам з ранетаў,*
*У хаце — панылым кутом,*
*З якога ў акно пазірае*
*Адзінокі стары гаспадар,*
*Які сваёй смерці чакае,*
*Якому — і лета не ў дар.*
*У вёсцы прыціхлі сабакі*
*Пасля праліўнога дажджу,*
*Адно слімакі-небаракі*
*З надворка паўзуць на шашу*
*Вясковым сімвалам руху,*
*Дзе вёска чакае канца,*
*Вайну перажыўшы, разруху,*
*У сцены ўвабраўшы свінца,*
*Які на ланцуг патрапляе*
*Нашчадкавай бензапілы,*
*Што хаты на дровы пускае*
*І ў зямлю закапае двары.*

*...З хаты, абмытай залевай,*
*Позіркам мерыць абшар*
*І смерці чакае нясмела*
*Апошні яе гаспадар.*

### Абуджэнне

*Дзень сцішыўся коткай —*
*Вось-вось нападзе.*
*Прахалодай дрыготкай*
*Ранак сон твой крадзе.*

*І з нязбыўнае мроі*
*У будзёныя дні*
*Шлях свой сцелеш па волі*
*Гэтай мірнай зямлі.*

*Пад удары дубінак,*
*Пад ракетаў выццё*
*Ад хаўтур да памінак*
*Тут будуеш жыццё.*

*Светлай раніцай летняй*
*І ў зімовую стынь*
*Заклапочаны мэтай*
*Не патрапіць ва ўтыль.*

*І не знікнуць дачасна,*
*А дажыць, паглядзець,*
*Хто тут доляй калгаснай*
*Будзе заўтра трымцець.*

*На кавалачку гэтай*
*Сваёй роднай зямлі,*
*Летнім ранкам заспеты,*
*Прачынаешся ты.*

***

*Лета ў ліпень зайшло.*
*Сонца плешчацца ў вокнах.*
*«Каб вайны не было...», —*
*А яна ўжо навокал.*

### Жнівень

*Жнівень зноў застаў*
*Нас сярод спраў,*
*Спее вынікам лета*
*Абстрактна й канкрэтна*
*Эквілібрыстыкай сэнсаў,*
*Пяшчотай сэрцаў*
*Ста́лы і малады*
*Жнівень ва ўсе гады.*

### Каса «пяцёрка»

*Стачылася каса «пяцёрка»,*
*Якую бацька мне купіў,*
*Каб навучыўся касіць лоўка,*
*Каб я касцом сапраўдным быў.*

*Мне год мінула дзесь 13,*
*Калі «пяцёрку» ў рукі ўзяў,*
*Калі даведаўся, што значыць*
*Класці ў пакосы дзялкі траў.*

*...Палеглі ўжо касцы, а косы*
*Пыляцца дзесь у закутах.*
*І не кладуцца больш пакосы*
*За роднай вёскай у лугах.*

*Мінулася касцоў эпоха,*
*Час трымераў яе змяніў.*
*Мая ж «пяцёрачка» нябога*
*Ўсё спраўна служыць мне наўздзіў.*

*Стачылася — ды не дарэшты.*
*І я пражыў — але не ўсё.*
*Яшчэ кашу, махаю, грэшны,*
*Пяцёрачкай за ўсё сяло.*

***

*Возера. Лета. Дзяўчына.*
*Верба. Бяроза. Ляшчына.*
*Сонечна. Горача. Пот.*
*Голыя ногі, жывот.*
*Пругкія грудзі, і вусны*
*Гэтак цалуюць спакусна*
*І жарсна — ніжэй і ніжэй!*
*— Там пад вярбой халадней... —*
*І двое зліліся ў цяньку*
*У гарачым рухомым клубку.*

### Будзень

*І будзе будзень вуліцы людніць.*
*Машынамі шумець, гудзець, дыміць.*
*У гэты светлы летні цёплы будзень*
*Святочных учарашніх нас не будзе.*

***

*Па колу знаходак і страт*
*Жыццё нас вяртае назад.*
*Ды час не адкруціш ва ўчора,*
*Застанецца толькі прастора.*

***2023 г.***

# Успаміны пра настаўнікаў



Генрых ДАЛІДОВІЧ

*«Настаўнік — соль зямлі».*

***Сымон Будны***

Мне пашанцавала ў Дзераўнянскай СШ Стаўбцоўскага раёна: тады, на пачатку 1960-х, нам беларускую літаратуру выкладаў А. Каменка. Ён асабіста ведаў многіх тагачасных пісьменнікаў і, галоўнае, пераказваў не сціслае і звышідэалагічнае са школьнага падручніка, а са сваіх студэнцкіх канспектаў, самых новых публікацый у часопісах, а заадно далучаў да чытання часопісы «Бярозка» і «Маладосць», асобныя новыя кнігі са сваёй бібліятэкі.

Затым нам, уже студэнтам беларускага аддзялення філфака БДУ, пашчасціла, што чыталі лекцыі не толькі дзядулі і бабулі, не адрываючыся ад пажаўцелых паперак, дзе былі выкраслены словы «Сталін», «па-сталінску», а пасвячалі ў мова- і літаратуразнаўства маладыя высокаадукаваныя навукоўцы, якія мыслілі ў духу хрушчоўскай адлігі (і нават больш) і, да ўсяго, самі былі ўжо вядомыя паэты, празаікі, крытыкі і літаратуразнаўцы. Яны «выходзілі» за межы ўніверсітэцкіх праграм, уважліва назіралі за намі і падтрымлівалі тых, хто сам яшчэ ў школе, а цяпер студэнтам меў цягу да літаратурнай творчасці.

Сёння радасна і ўдзячна ўспомніць, што на першым курсе Ніл Гілевіч завабіў разуменнем, усведамленнем духоўнасці, філасофскасці і эстэтычнасці, моўнага багацця фальклору; што Алег Лойка падкрэсліваў асаблівую значнасць для адраджэння беларускай мовы, літаратуры, а з гэтым і нацыі разумовых і творчых асобаў XIX стагоддзя (пры гэтым рабіў экскурсы і ў XV—XVIII стагоддзі, адкрываў для нас зусім невядомыя імёны і творы, тым самым ілюструючы, што наш люд не быў суцэльна непісьменны, а сярод яго было нямала светачаў, якія атрымалі вышэйшую адукацыю ў лепшых еўрапейскіх універсітэтах і нямала чаго зрабілі для асветы, навукі і культуры ВКЛ); што Дзмітрый Бугаёў дзёрзкай палемікай з многімі схільнымі да неаджылай яшчэ вульгарнай крытыкі навучаў самастойна спасцігаць як даўнюю, так і новую літаратуру, не асцерагацца выказваць свае думкі, калі трэба, то і палемізаваць. Па яго і Барыса Сачанкі з тагачаснага «Полымя» парадзе я захапіўся прозай тады яшчэ не толькі няўведзенага ў праграмы, але і яшчэ паўзабароненага Максіма Гарэцкага. Каб прачытаць яго творы са сховішчаў, «Нашу Ніву» ды іншую дарэвалюцыйную забароненую літаратуру 1920—30-х гадоў, крыху старэйшы за мяне Рыгор Семашкевіч паспрыяў патрапіць чытачом у беларускі аддзел тагачаснай «Ленінкі», дзе папаўнялі свае веды, пісалі новыя даследаванні і нашы выкладчыкі.

З «Маладосці» ў старэйшых класах я ўведаў, што ёсць і такі пісьменнік, як Іван Навуменка, што ён — выкладчык філфака БДУ. Прачытаў некаторыя яго надрукаваныя ў той час апавяданні, раман «Сасна пры дарозе».

Зразумела, вучань тады яшчэ не мог належна зразумець, ацаніць уклад гэтага аўтара ў распрацоўку нашай прозай тэматыкі твораў пра Другую сусветную вайну, пра вялікую трагедыю нашага народа. Калі ўжо студэнтам набыў раней выдадзеныя яго кнігі апавяданняў і аповесцяў, то мне вельмі спадабалася, як проста, але і як змястоўна, маляўніча ён піша пра вясковы побыт, духоўныя абсягі, памкненні ў падлеткавым, юначым узросце («Сямнаццатай вясной», «Хлопцы-равеснікі», «Вайна каля Цітавай копанкі» і інш.). А новай кнігай апавяданняў «Таполі юнацтва» (1966) Іван Навуменка ярка засведчыў сваё творчае крэда: ён не проста напісаў яшчэ шэраг твораў на ўпадабаную тэму на моцнай біяграфічнай аснове, а засяродзіўся на адлюстраванні лёсу, светапоглядзе і высокамаральных учынках тых, хто заканчваў перад вайной школу, каго ва ўмовах сталінізму тады «сурова вучылі» (П. Панчанка).

Няма ніякага перабольшвання: Навуменка ў гэтай справе — адзін з самых выдатных выказнікаў светапогляду, духу, паводзінаў, драмы ўсяго свайго пакалення, якое разам са старэйшымі прыняло актыўны ўдзел у барацьбе з ворагам, шмат выцерпела, панесла вялікія страты і сталася ў шэрагах пераможцаў над фашызмам, а пасля вучылася замацавацца і ў мірным, вельмі складаным жыцці.

Пасля дэмабілізацыі з арміі ў 1945-м Навуменку, каб стаць аўтарам першай кнігі прозы і выкладчыкам БДУ, давялося болей дзесяці гадоў зарабляць на хлеб, творча сцверджвацца рознай працай і набываць вышэйшую адукацыю завочна. А разам з прозай значна загучала і слова Навуменкі-літаратуразнаўцы.

Маё блізкае знаёмства з Іванам Якаўлевічам адбылося толькі на апошнім курсе, калі ён пачаў чытаць у нас лекцыі па сучаснай літаратуры. У гэты час да яго рэпутацыі вядомага пісьменніка дадалася і рэпутацыя выдатнага даследчыка творчасці пісьменнікаў XIX стагоддзя, аўтара дзвюх арыгінальных кніг пра Янку Купалу і Якуба Коласа ў святле вызначэння духоўнага вобліку герояў іхніх твораў. Гэта не магло не абумовіць змест яго лекцый, схільнасці і асабістыя сімпатыі. Асабліва ў аналізе творчасці сучасных празаікаў: ён, зразумела, выступаў тут як іхні калега і варты супернік. Значыць, быў нароўні з самымі значнымі.

Не буду настойліва сцвярджаць, але мне падалося, што ён з асаблівай пашанотай вылучаў прозу Якуба Коласа, якога лічыў сваім настаўнікам (як прызнаваўся, любіў «Коласаў гумарок», некаторыя літаратурныя прыёмы пераказу тэксту твора), паважліва ставіўся да празаікаў, якія фармаваліся ў 1920-ыя і сталелі, дасягнулі значных здабыткаў у 1930-ыя, з сучаснікаў ухваляў раманы Івана Мележа, Івана Шамякіна, а вось пра творчасць Янкі Брыля і Васіля Быкава штосьці недагаворваў, даволі стрымана ацэньваў самабытныя набыткі Аляксея Кулакоўскага, Аркадзя Чарнышэвіча, Міколы Лупсякова, Міколы Лобана, а ў поглядзе на апавяданні, аповесці маладзейшых пісьменнікаў, што прысвячалі творы свайму дзяцінству, якое апаліла вайна, а таксама паказу лёсу спаленых вёсак, адчувалася некаторая паблажлівасць.

Алег Лойка, Дзмітрый Бугаёў ахвотна дазвалялі не толькі траціць іхні каштоўны час на пасялекцыйную размову з намі, але і часамі на дыспут з імі. Таму я асмеліўся выказаць некаторыя свае сумненні і Івану Якаўлевічу, хоць, прызнаюся, пабойваўся яго аўтарытэту і перакананасці поглядаў, а таксама, як казалі, ягонага строгага нораву. У прыватнасці, зазначаў: пісьменнікі, якія ўступілі ў літаратуру з сярэдзіны 1950-х, ужо (на 1968 год) зусім не пачаткоўцы. Яны абагацілі нашу прозу новымі тэмамі і пластамі мовы, у лепшых традыцыях ранейшай прозы развілі жанр апавядання, а Іван Пташнікаў яшчэ стварыў выдатныя аповесці «Лонва» і «Тартак», Барыс Сачанка — аповесці «Пакуль не развіднела», «Апошнія і першыя», Міхась Стральцоў — аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь». Адпаведна, іхняе лепшае — належнае папаўненне і ўзбагачэнне нашай літаратуры, і гэтага дзеля справядлівасці неразумна недацэньваць.



Пісьменнікі Янка Сіпакоў, Іван Навуменка, Ніна Маеўская, Барыс Сачанка, Юрась Свірка. Мінск, 1958 г.

Так, гэты выкладчык не быў цярплівы слухач і не ўцягваўся ў дыскусію, прытрымліваўся сваёй пазіцыі. І ўзяў мяне на заметку: калі ты такі заўзяты абаронца творчасці Івана Пташнікава, Вячаслава Адамчыка, Барыса Сачанкі, Міхася Стральцова, Івана Чыгрынава, то, калі ласка, як кажуць, усе карты табе ў рукі: пішы дыпломную на тэму «Маладая беларуская проза», даказвай і абгрунтоўвай сваё. Ён не мае лішняга вольнага часу, карпее над доктарскай, але згодзен стаць навуковым кіраўніком такой дыпломнай.

Я загарэўся гэтай прапановай, хоць хутка і астудзіўся: аднакурснікі выбралі тэмы, на якія было ўжо шмат даследаванняў, а вось я сабе ў падмогу не мог знайсці сур'ёзных асобных артыкулаў: у друку на кнігі названых пісьменнікаў былі толькі рэцэнзіі, мясціны ў калектыўных аглядах. Іван Якаўлевіч спакойна суцешыў: перапісаныя з гатовага дыпломныя мо і не застануцца нават у архіве, а вось мне, як і Рыгору Семашкевічу, ёсць шанец напісаную самастойна дыпломную пераўтварыць у кандыдацкую.

Што ж, засеў за працу. Кіраўнік уважліва чытаў раздзел за раздзелам, стрымліваў маё захапленне і пахвалу, заклікаў «развіваць крытычны аналіз». У прыватнасці, за «пэўную замкнёнасць тэматыкі, за празмерныя апісальніцтва і дэталізацыю, ужыванне дыялектызмаў» амаль ва ўсіх аўтараў (апроч Стральцова). Карацей, урэшце Іван Якаўлевіч ухваліў канчатковы варыянт і нават падмеўся прапанаваць яго ў аддзел крытыкі і літаратуразнаўства часопіса «Полымя», каб там выбралі ўрывак для публікацыі.

Рукапісная копія дыпломнай апынулася ў «Полымі» (там яе прачыталі, калі я ўжо настаўнічаў на Барысаўшчыне, і, сапраўды, адзначылі, што мне выбраць і дапрацаваць), абарона прайшла паспяхова, хоць старшыня камісіі трохі бурчэў не столькі на мяне, колькі на «марудны рост маладых пісьменнікаў», за «непашырэнне тэматыкі іхніх твораў».

Але мой шлях у навукоўцы не адбыўся. Сустрэліся мы з Іванам Навуменкам праз гады два ў «Маладосці», і ён мяне агаломшыў: «Ну што — прасвістаў універсітэт? Табе ж сказалі ў «Полымі», што выбраць для публікацыі, а ты і пальцам не паварушыў для гэтага. Лайдак! Была б публікацыя ў салідным выданні — мо была б і аспірантура для цябе. Тым больш, што кандыдацкая была амаль гатовая».

Супакоіўся і адказаў зычліўцу, што не мог падрыхтаваць урывак па той прычыне, што мяне прыклікалі служыць у войска, і там мне не было ніякіх умоў для такой працы».

«Гэта — іншая справа, — палагоднеў ён. — І цяпер можна вярнуцца да таго. І апавяданні, аповесці пішы. Асіпенка (тады галоўны рэдактар часопіса «Маладосць») ускладае на цябе вялікія надзеі».

Не вярнуўся я «да таго», толькі пазней з дыпломнай надрукаваў некалькі артыкулаў амаль пра ўсіх пісьменнікаў, якіх мне хацелася падтрымаць.

У 1973-м я пакінуў настаўніцтва і пачаў працаваць у аддзеле прозы часопіса «Полымя» разам з Барысам Сачанкам, Іванам Пташнікавым. Першы блаславіў рукапіс майго зборніка апавяданняў да друку, другі даў рэкамендацыю для паступлення ў Саюз пісьменнікаў, а кіраўнік маёй дыпломнай, ужо член-карэспандэнт АН БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, узначаліў Інстытут літаратуры.

Час ад часу мы сустракаліся ў палымянскай рэдакцыі як аўтар і супрацоўнік выдання, у Саюзе пісьменнікаў на розных сходах. Зрэдзь спатыкаліся выпадкова. Калі ён ішоў пешшу, то праводзіў настаўніка за Купалаўскі тэатр, дзе была ягоная кватэра. Чуў ад яго думку пра мой новы твор, мог удзельнічаць з ім у шчырай, душэўнай гутарцы. І тады мне адкрываўся новы Навуменка — не толькі ўжо яшчэ больш масціты, акадэмік, віцэ-прэзідэнт АН, але і як грамадзянін-патрыёт, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Ён прасіў час ад часу званіць яму, расказваць, што новае значнае будзе друкавацца і ў яго любімай «Маладосці», чым увогуле жыве наша творчая моладзь.

Я глыбока ўдзячны яму і за тое, што ён, услаўлены рознымі ўзнагародамі, спрыяў, каб і я, грэшны, атрымаў Дзяржаўную прэмію ў галіне літаратуры, а затым, з прысуджэннем яе, адзін з першых павіншаваў і сказаў вельмі цёплыя словы. Такое пачуць ад мэтра — не толькі прыемна, але і незабыўна.

Выпала так, што з маёй сям'і не адзін я знаўся і знаюся з сям'ёй Івана Навуменкі. Лекцыі на гістфаку яго жонкі Ядвігі Паўлаўны слухала мая жонка, а на філфаку яго сына Паўла Іванавіча — наша дачка. Мы ў прыязных адносінах з дачкой Валерыяй Іванаўнай — абаяльнай, высокаадукаванай у медыцыне і культуры, а яе муж Віктар Пятровіч спрыяў нам падмацоўваць здароўе ў адной з нашых паліклінік. Словам, сям'я Івана Навуменкі, як яшчэ нядаўна пісалі, не проста ячэйка грамадства, а сямейная, інтэлігентная, інтэлектуальная супольнасць, з якой кожны па-свойму прысвяціў сваю працу на карысць народу, асобнаму чалавеку.

# Алег ЛОЙКА (1931—2008): «Літаратура залежыць ад космасу»

***Жыццёвы шлях Алега Антонавіча Лойкі, які пакінуў наш свет 15 гадоў таму — 19 лістапада, — шматпаказальны і тыповы ў беларускай гісторыі. Дзесяць дзясяткаў кніг, ступень доктара філалогіі (1969), званне член-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі (1989), Дзяржаўная прэмія (1990), дэканства на філфаку БДУ... Любімец тысячаў студэнтак і студэнтаў, сотняў выкладчыц і выкладчыкаў. І — нечаканая хвароба (дыябет), даносы вучняў, некаторыя з якіх неўзабаве занялі немалыя пасады, звальненне «няўгоднага» прафесара, ад’езд з Мінска ў Слонім, адзінота...***

***Але размова з паэтам, празаікам, перакладчыкам і літаратуразнаўцам, якая адбылася ў яго апошні жыццёвы год, склалася не аб тым. Яна была — шырэй — пра лёс чалавека і літаратуры.***



***«ЛБ»:** — Яшчэ некалькі гадоў назад імя Алега Лойкі часта сустракалася на старонках СМІ: і як літаратара, і як грамадскага дзеяча. Цяпер жа можа скласціся ўражанне, што член-карэспандэнт Акадэміі навук Лойка — у эміграцыі...*

***Алег ЛОЙКА:*** — Не... Тут не эміграцыя, тут вяртанне на кругі свае. Вяртанне да таго, чым я жыў дагэтуль. Для мяне Слонімшчына, Зэльвеншчына, Ружаны, Дзярэчын — вельмі блізкія, вельмі дарагія. Паўторная «прапіска» ў Слоніме ў мяне была 6. 6. 2006-га. Крышку гэтыя тры біблейскія шасцёркі не на шчасце, аднак жа, мне здаецца, у Бібліі шасцёркі гэтыя не толькі прарочаць, значаць нешта кепскае, д’ябальскае, але яны сведчаць і пра нешта чараўнічае, чараўніча-купальска-натхняльнае.

Зрэшты, гэта кабалістычнае тлумачэнне Бібліі, тых лічбаў. А для мяне яно аказалася «вяртальным»... Пра гэта я і верш напісаў: аб тым, калі я вярнуўся ў Слонім. Слонімская Лабазоўка — гэта маё Болдзіна, Ясная Паляна, Коласаўская Мікалаеўшчына, Купалаўскія Акопы. Мне здаецца, што не я адзін паехаў у сваю вёску: Лабазоўка раней была вёскай каля Слоніма, гэта цяпер яна ўвайшла ў горад (а раней я жыў на ўскраіне Слоніма на Зялёнай), цяпер гэта Віленская вуліца. Да Вільні ад маёй хаты 195 км, да Мінска — 200, да Гродна — 165, а да Брэста — таксама 165...

***«ЛБ»:** — Алег Антонавіч, што думаецца ў гэтым адмысловым цэнтры — і Вашага дзяцінства, і Вашых мараў, і ўспамінаў, і цяперашчыны?*

**А. Л.:** — Думаецца... Думаю пра кнігі. Ужо і вершаў нямала напісаў, якія нечаканыя для мяне. На выхадзе — я чакаю выхаду — падручнік для студэнтаў па старабеларускай літаратуры. Я выдаў першую частку, а цяпер напісаў другую, напісаў па просьбе студэнтаў. Першая назва, якую я даў гэтаму падручніку, — «Літаратура беларускага сярэднявечча». Тая літаратура — не старажытная, не «древняя», а — сярэдневяковая: ранняе сярэднявечча, рэнесанснае, барокавае, рэфармацыйнае, контррэфармацыйнае...

Да ўсяго, яшчэ пішу падручнік, незвычайны падручнік — па займальным літаратуразнаўстве, якога, на жаль, няма ва ўніверсітэцкіх праграмах па літаратуры. А я яшчэ ў школе задумаў напісаць такую кнігу... Я чытаў займальную фізіку — і захапляўся, займальную астраномію — і захапляўся, займальную мінералогію... Займальнае літаратуразнаўства ў мяне — на матэрыяле літаратуры, і не толькі роднай, не толькі беларускай, але і еўрапейскай: расійскай, украінскай, польскай, французскай, нямецкай. Вось толькі назвы некалькіх раздзелаў: «Тым займальней, чым глабальней...», «Сакральнасць фігуральнасці» (паэзія — гэта фігуральнасць, сакральнасць — святасць, святасць паэзіі? Так, святасць, і з маральнага, і з рэлігійнага боку: усё духоўнае — сакральнае! Асветніцтва — гэта служба святла. Сакральнасць паэзіі — і ад язычніцтва, не толькі ад хрысціянства), «Хто такая Бавары?» і пад. Некалі спыталі ў Флабэра: «Хто такая мадам Бавары?», а ён адказаў: «Гэта я...».

А наогул — цяжка. Цяжка. Сноў у мяне няма. Былі два — пра тое, як я чытаю лекцыю... Думкі ж мае няпростыя ў няпросны час Беларусі...

***«ЛБ»:** — Па сутнасці, Вы адзіны ў гісторыі беларускай літаратуры — пасля Максіма Гарэцкага, бадай, — хто канцэптуальна асэнсаваў і комплексна апісаў усю гісторыю айчыннай літаратуры: ад старадаўнасці да сучаснасці (калі сабраць у адзінае ўсе Вашыя публікацыі ды выступленні). У адной асобе маем чалавека-інстытут, чалавека-акадэмію. Вы адпрацавалі ва ўніверсітэце на філфаку больш за паўстагоддзя. І — урэшце — закончылася ўсё звальненнем не па сваёй волі. Нават па гэтай размове відно, што Вам не хапае стасункаў з філалагічнай моладдзю, а самі — як жылі, так і жывяце лекцыямі, іх задумкамі і ўвасабленнем. Раскажыце пра згаданыя сны...*

**А. Л.:** — Ну... (Усміхаецца.) Чытаў тысячнай аўдыторыі. Збіраўся, хваляваўся, рыхтаваўся... Канешне, я ўсё жыццё не ўяўляў сябе па-за ўніверсітэтам. Былі розныя прапановы працаўладкавання: з Акадэміі, з Саюза пісьменнікаў. Аднак я не мог уявіць сябе без студэнцкай аўдыторыі.

***«ЛБ»:** — Што даў Вам універсітэт і што Вы яму перадалі наўзамен?*

**А. Л.:** — Мне — можна так сказаць — усё даў універсітэт. Усё, кім я стаў, — гэта дзякуючы ўніверсітэту: інтэрнату, хлопцам, дзяўчатам, сябрам... Я «дэбютаваў» не вельмі бліскуча...

***«ЛБ»:** — Пачнём з таго, што Вы ледзь паступілі ва ўніверсітэт...*

**А. Л.:** — Таму што была мандатная камісія. Тут, у Слоніме, я адзін год — у шостым класе — вучыўся ў прагімназіі, а прагімназія была СБМаўская (Саюза беларускай моладзі ў акупаванай рэспубліцы). Мы нікуды ніякіх заяў не пісалі, былі прысягі, але я не пайшоў на прысягу...

***«ЛБ»:** — Прысягалі тады Беларусі ці Гітлеру?*

**А. Л.:** — Прысягалі Беларусі. Гэта не гітлер-югенд быў, хоць і цяпер яшчэ рознае плявузгаюць. Форму ж я насіў, мама купіла мне на Слонімскай «таўкучцы» штаны з «чортавай» скуры (канапляныя). І шынель — нямецкі... Бацькі ў растэрміноўку яшчэ да вайны набылі патэфон і некалькі кружэлак. Сярод іх першая была з запісам песняў Міхала Забэйды-Суміцкага. І цяпер памятаю тыя песні... «А у лесе, у лесе...». Са славутым Забэйдам я сустракаўся ў Празе, а першы раз убачыў яго на канцэрце ў Слонімскім народным доме культуры ў 1943 годзе. У першым радзе сядзеў слонімскі гебельскамісар... Праз некалькі гадоў мой бацька ездзіў сведчыць супраць яго ў Познань у суд. А бацьку пасля вайны не пасадзілі таму, што ён дапамагаў партызанам медыкаментамі. Быў на тым канцэрце і муж Ларысы Геніюш спадар Янка... Ну і я, падшыванец, на галёрцы прыцішыўся... Вось таму мяне адразу і не прынялі ва ўніверсітэт: я адкрыта прызнаўся, што вучыўся ў СБМаўскай прагімназіі. І стаў толькі кандыдатам у студэнты...

***«ЛБ»:** — І, па сутнасці, Вы перажылі ўсю сучасную гісторыю ўніверсітэта.*

**А. Л.:** — Я напісаў успаміны пра маё ўніверсітэцкае жыццё. Увогуле, я напісаў пра тое кнігу.

***«ЛБ»:** — А чаго Вам не хапае: у жыцці, творчасці?*

**А. Л.:** — Цяжка матэрыяльна, фізічна. Я тут адзін пасля смерці жонкі, Ліліі Іванаўны. Маё становішча незайздроснае. Але я ўдзячны, што вакол мяне ёсць дарагія людзі, наведваюць, падтрымліваюць, дапамагаюць. Таму духоўна я не абдзелены. І галоўнае — я пішу. За апошнія паўгода шмат што апублікаваў: і вершы, і ўспаміны...

***«ЛБ»:** — Так мы зноў вярнуліся да літаратуры... Што, на Вашую думку, нацыянальнай беларускай літаратуры найбольш удалося, найлепш атрымалася ў сусветным ракурсе?*

**А. Л.:** — Я бачу недаацэнку літаратуры майго пакалення шэрагам маладзейшых. І цяпер з’явілася многа талентаў: у паэзіі, прозе, а вось пакалення не атрымліваецца, такога, як Адамчык, Пташнікаў, Кудравец і іншыя. Здавалася, запаўняем незапоўненыя нішы, а чым запоўнілі? Часта — ерундой... Аднак, як некалі гаварыў мой бацька, у гаспадарцы ўсё патрэбна... Я ж асабіста за класічнасць: і рамантычную, і рэалістычную, якія з чалавекам, з чалавечай тэмай, з перажываннем, з радасцю, з болем. Вось гэта нашая літаратура і змагла найлепш увасобіць. У сусветным маштабе, да ўсяго, беларуская літаратура адметная сваім магутным і да сёння шырокім ды актыўным літаратурна-грамадскім працэсам (літаратурныя суполкі, аб’яднанні, выданні: кнігі, альманахі, часопісы, газеты), адметная сваім пафасным адраджэнцкім, асветніцкім жыццём.

Цяпер жа нам, нашай паэзіі, прозе не хапае галоснасці, публічнасці, не хапае падтрымкі дзяржаўнай. Я асуджаю гэтае дзяржаўнае непрыняцце-нелюбоў да літаратуры! Гэта ўсё непрыгожа. Літаратура ж — рэч прыгожая.

***«ЛБ»:** — Гэта — Вашае новаўвядзенне: літаратура і філалогія — справа прыгожых...*

**А. Л.:** — Так, я нават прапаноўваў на філфак прымаць толькі прыгожых людзей. І форма, і змест філалогіі, настаўніцтва павінны ўражваць. Я не супраць сухасці акадэмічнай, але ва ўніверсітэце патрэбна — у большай ступені — і эмацыянальнае, таму што эмоцыі вучаць, а не сухая дыдактыка.




***«ЛБ»:** — У савецкі час несвабода, цэнзура часта спрыяла творчасці, спрыяла напісанню надзвычайных тэкстаў: вершаў, раманаў. Чаму, на Вашую думку, сёння пры лішку дзяржаўнай несвабоды беларускай літаратуры бракуе надзвычайнага?*

**А. Л.:** — Я не магу гэта растлумачыць, бо не ведаю, чаму... Літаратура як з’ява залежыць ад космасу, ад зорак. Мы думаем, што гэта мы пішам, а гэта за нас пішуць. Я тут ідэаліст. Я і сам так пішу: верш адразу бачу, ён ужо ёсць перад тым, як я пачынаю яго запісваць-складаць. Я веру ў тое, што чалавек прыйдзе да разумення значнасці літаратуры праз уздзеянне нейкіх касмічных сіл, касмічнага розуму. Касмічны розум доўга чалавека на зямлі гадуе. Сасна лепш расце, а розум чалавечы — на жаль...

Неразумнасць наўкол, наўкол — задавальненне патрэбаў жывата, а не патрэбаў душы. Наеліся, але наеўшыся трэба думаць, а не пазяхаць у сне, сне бязвольнасці, абыякавасці, прагматызму. За апошні час мы пабагацелі. І дзяржава нашая багатая, і казна нашая багатая, але на што ідзе тая казна? На глядалішчы, але на якія? На «Віцебскі базар»... Я глядзеў. «Дзень Беларусі»... Але ж які гэта дзень? Пакажыце сваё! А так, калі ласка, за грошы ўсе рускія... Я не супраць, але калі тут свой талент не падтрымліваецца, і ў «Дзень Беларусі» толькі дзве-тры беларускія песні...

***«ЛБ»:** — Вы разважалі пра стасункі літаратурных пакаленняў. А ці не падаецца наогул — у глабальным маштабе, — што літаратура ў сучасным свеце перараджаецца, што прыйдзе час — і праз паўстагоддзя, стагоддзе такой літаратуры, якая вырасціла Вас, вывучэнню якой Вы прысвяцілі жыццё, не будзе?*

**А. Л.:** — І сапраўды, я думаю пра тое. Цяпер на нас глядзяць як на кансерватараў. Нават і графаманамі называюць. Захад перайшоў на коміксы, аднак літаратура ж застаецца. Застаецца!

Мы, на жаль, для многіх маладых — перажыткавыя істоты. Але перажытак — уваскрасае. Аднак каб узнялася, адрадзілася літаратура — грамадства павінна ўзняцца. Грамадства ж цяпер у «бізнэсе», а «бізнэс» наш не стаў апекуном паэзіі, не стаў мецэнатам, як некалі раней, у часы Сапегі, Астрожскага, Агінскага. Фёдараў выдаваць кнігі куды прыйшоў? Да Хадкевічаў прыйшоў. У часы Агінскага ў Слоніме быў еўрапейскага рангу тэатр. Слонім называлі паўночнай Венецыяй! Адзінаццаць мастоў у горадзе!.. Не многія гарады могуць пахваліцца тым...

***«ЛБ»:** — Алег Антонавіч, а на якое пытанне Вы яшчэ не маеце адказу?*

**А. Л.:** — Чаму чалавек і чалавецтва не развіваецца па ўздымнай лініі? Я не бачу ўздыму. У сярэднявеччы ён быў. І я хацеў бы нарадзіцца ў сярэднявеччы. Яно было ўздымным, стваральным. Выклікаць на сябе раны Хрыста, напісаць «вынікі рэчаў» — як Авіцэна — у сто тамоў пра гэты свет!..

Я вітаю хрысціянскі айкуменістычны рух. Было б цудоўна, калі б усе хрысціяне аб’ядналіся. Аб’ядналіся ў час, калі ідзе трэцяя сусветная вайна. Ідзе недаацэнка жыцця як такога. Само жыццё ёсць шчасце, а не «загробнае» жыццё. Тут мы недалёка адышлі ад кельтаў, якія думалі, што шчасце наступае пасля смерці. Падобны рэлігійны фанатызм — у ісламе. Мы гаворым часта пра глабалізацыю, але яе няма! Іслам з хрысціянствам — не аб’яднаць, хоць Каран шмат у чым паўтарае Біблію, а Хрыстос Будду паўтарае. Але няма адчування святасці жывога. Яна ёсць у індусаў: я быў там, бачыў, як людзі хадзілі з мяцёлкай — вымяталі перад сабой, каб не растаптаць штосьці жывое на дарозе...

Адчуванне святасці жывога мы страцілі. А таму — вайна. «Свяшчэнная вайна». Але ж ці можа быць святой вайна? Забойствы? А таму — нястомныя пошукі ворагаў. І — вайна з нашай літаратурай.

***Ліпень 2007 г.***

# Зменлівы і нязменны: Персі Бішы Шэлі

Таццяна ШЫПІЛАВА

Ім зачытвалася і яго праклінала ўся Англія. Выдатны юнак і адчайная пачвара. Паэт-рамантык і філосаф-ідэаліст. Ізгой і выкрадальнік жаночых сэрцаў нароўні з Байранам. Заўважны і занадта шчодры мужчына. Геній, які яшчэ раз даказвае, што мераць творцаў адной лінейкай нельга, бо геніяльнасць заўсёды ўнікальная.

## Замест уступу

Калі мы бачым у заяўленым жанры «рамантыка», разумеем, што там нешта пра пачуцці, эмоцыі і каханне. Таму калі гаворка вядзецца пра немцаў, англічан, французскіх рамантыкаў, у неспрактыкаванага чытача ўзнікае думка, што яны ўсе пісалі пра каханне. Але не. Хоць пра каханне, вядома, таксама, як і ўсе паэты, але не яно было іх пуцяводнай зоркай, не да яго імкнуліся яны ў сваіх вышукалцоных тэкстах.

*У палях жывой травінкі не знойдзеш,*
*Агаленыя лясы.*
*І цішыню гайдае*
*Кола млына.*

[Тут і далей пераклады вершаў — А. А.]

Немцы вельмі летуценныя. Яны вечна лунаюць у сваіх далёкіх аблоках, мараць аб паралельных сусветах, куды сапраўды можна збегчы з гэтага абывацельскага існавання. Гэты свет заўсёды цудоўны і казачны. Ён яскравы, там героя вельмі чакаюць, ён там становіцца новым Месіяй.

Французы — рэвалюцыянеры. Галоўны рамантык Парыжа Віктор Гюго 20 гадоў пісаў раман усяго свайго жыцця, дзе ідэйнай кульмінацыяй становіцца згуба ўсіх ABC-шных прыгажунчыкаў, якія ўвасабляюць аўтарскія ідэі аб раўнапраўі-каханні-сяброўстве-жуйцы. Уявіце, колькі слёз пралілі спачатку чытачы падчас апісання баёў на барыкадах 1832 года, а потым ужо і глядачкі амаль аскараноснага мюзікла 2012 года, там акцёры — усе як на падбор!

Зусім іншыя ангельцы. Яны — рэфарматары. Гэта тыя людзі, якія стваралі кірункі, а потым самі ж тыя кірункі высмейвалі. Тут вам і Стэрн, які стварыў і высмяяў сентыменталізм, і Байран, рамантычнае бажаство, якое ў выніку само ж з сябе пацяшалася. Пры гэтым ангельцы — пры ўсім іх пурытанстве і чапурыстасці — умудрыліся спарадзіць неабсяжную колькасць мітуслівых, свабодалюбных паэтаў, якія выбіваліся з усіх магчымых і немагчымых межаў, якія, верагодна, цяпер ужо з'яўляюцца часткай гісторыі, якія, магчыма, ужо засталіся ўнутры вузкай літаратуразнаўчай тусоўкі, але без іх не было б ні сясцёр Брантэ, ні Дзікенса, ні Вірджыніі Вульф, ні шматлікіх сучасных аўтараў, якія дагэтуль чэрпаюць натхненне ў літаратурных доўгажыхароў.

Такі — Персі Бішы Шэлі. Доўгажыхаром, праўда, назваць яго складана, але ён паспеў у адведзеныя яму няпоўныя 30 гадоў стварыць столькі, што ўпісаў сваё імя ў гісторыю літаратуры надоўга.

## Антыбіяграфія

Наогул вывучаць літаратуру па пісьменніцкіх біяграфіях справа няўдзячная. Мы часта чакаем ад паэтаў маральнага ідэалу, прыкладу для пераймання, маральнага арыенціра. Гэтыя ўсе ідэалы і арыенціры, як правіла, адштурхоўваюцца ад нашых сучасных (ці не вельмі) уяўленняў аб маралі і этыцы; рэдка хто суадносіць цяперашняе ўспрыманне тэксту з эпохай яго стварэння. А ўжо задумацца аб розніцы светаўспрымання і вобразе жыцця пісьменніка і чытача, якіх падзяляюць нават не гады — стагоддзі, — гэта ўжо наогул не кожнаму, на жаль, дадзена.


Фота wikipedia.org

Персі Бішы Шэлі. Партрэт 1819 г.

Персі Бішы Шэлі — не самы станоўчы прыклад для пераймання нават для чалавека XXI стагоддзя, а ўжо ў стагоддзі XIX, у якім ён паспеў набедакурыць, тым больш.

*...Дух Мільтана з'явіўся мне зараз, —*
*І лютню зняў з густога дрэва жыцця,*
*І громам салодкагучнасці ўстрапянуў*
*Людзей, якія пагарджаюць людзьмі,*
*І крывёю абагрэтыя пасады,*
*І алтары, і крэпасці, і турмы...*

Будучы старэйшым сынам тытулаванай сям'і і меўшы тытул баранэта, ён нават не скончыў універсітэт, хаця атрыманай ім адукацыі хапіла б сучаснаму філолагу для абароны як мінімум кандыдацкай ступені. Ён перакладаў Платона, чытаў Сафокла, любіў Кітса, поўніўся глыбокай пашанай да Мільтана. А як гаварыў Фамусаў, веды — вось прычына ўсіх бедаў, што звальваюцца на занадта разумных хлопчыкаў (і дзяўчынак, куды ж без гэтага).

Першы шлюб Персі — найдасканалы мезальянс. Мала таго, што без дазволу павёз дзяўчыну ў Шатландыю (усе ж ведаюць, што Шатландыя ў Вялікабрытаніі XIX стагоддзя была чымсьці накшталт цяперашняга Лас-Вегаса: узяць шлюб там можна было хутка, без усялякіх перашкодаў у выглядзе ўгневаных сваякоў або ўсякай бюракратычнай валтузні), дык яшчэ і будучая жонка аказалася дачкой звычайнага карчмара.

Харыэт Уэстбрук, сяброўка сясцёр Шэлі, была міленькай, уражлівай, але не асабліва разумнай. Яна захаплялася талентам юнага генія (а тое, што Персі быў геній, было ўсім зразумела, хоць і не ўсе гэта прызнавалі), гатовая ва ўсім яго падтрымліваць. Але пагадзіцеся, складана ўтрымацца, калі табе пішуць, напрыклад, такое:

*О Харыэт! Хто раз выпіў*
*Да дна твой погляд прамяністы,*
*Той змрок жыцця перамог...*
*Але, сябар мой, у запале чыстым*
*Прызнацца я не паспяшаўся*
*І тым пагарду заслужыў.*

*О Харыэт, толькі ты можаш*
*Не зачарсцвець у мітусні;*
*Між ненавіснікаў маркотных —*
*Добрая, далікатная толькі ты,*
*І далікатная твая адвага*
*Заменіць мне зямныя выгоды.*

Дадайце сюды яшчэ не самую шчаслівую сям'ю, бацьку-ліхвяра, не надта перспектыўны варыянты будучага замужжа з аднаго боку і выдатнага юнака-паэта — з іншага. Здаецца, выбар відавочны, і выбар гэты — жаніцьба ў Шатландыі.

*Ад вечных змен? — Для іх найвольны шлях.*
*Ні радасць і ні смутак не ведаюць палону.*
*І дзень учарашні назаўтра не вярнуць.*
*Так, зменлівасць — яна адна нязменная.*

Ну, вы зразумелі: не паспела Харыэт нарадзіць Персі другое дзіцё, як ён захапіўся іншай. Так, вось так лёгка і проста. Ён быў фанатам Уільяма Годвіна, які, у сваю чаргу, быў мужам першай англійскай феміністкі Мэры Уолстанкрафт. Гэта была яшчэ тая сямейка з грамадзянскімі шлюбамі, суіцыдамі ды іншымі прыкладамі маніпулятарства, але Годвін — апагей усяго. І ўсё ж пры дэспатычных хатніх паводзінах ён умудрыўся выхаваць дачку, Мэры Годвін, якая пасля не толькі стала другой жонкай Персі Бішы Шэлі, але і ўвайшла ў гісторыю сусветнай літаратуры як аўтарка «Франкенштэйна».

Але цяпер не пра Мэры Шэлі, хоць яна і аўтарка самага экранізаванага рамана. Наогул, калі ўспрымаць паэта праз прызму яго біяграфіі, атрымаецца суцэльная нудота і пошласць. Хто з кім спаў, хто з кім збег, хто колькі нарадзіў і колькіх пахаваў. Гэта ўсё тлен (хоць незадаволенасць з нагоды адмовы забраць дзяцей пасля самагубства першай жонкі Персі вельмі ярка выказаў у паэме «Разалінда і Алена»), у вечнасці застаецца іншае.

Больш лагічна праз біяграфію глядзець на творчасць, пра што, напрыклад, казаў яшчэ Шлеермахер у сваіх лекцыях, лічачы, што «поўнае вывучэнне тэксту магчыма толькі ў сувязі з асобай аўтара». Але ўсё ж трэба ўмець аддзяляць зерне геніяльнасці ад пустазелля біяграфічнай даведкі.

## І ўсё ж пра творчасць

Персі Бішы Шэлі быў паэтам, які апяваў свабоду без рэлігійнага прыгнёту, марыў пра камуну, у якой будуць усе роўныя. Ён пагарджаў Напалеонам, бо той «мог бяскроўна зацвердзіць свой трон», але «аддаў перавагу разні ў пышным стылі». Сваё скептычнае (мякка кажучы) стаўленне да хрысціянства адлюстраваў у паэме «Каралева Мэб», а ў «Аласторы» ён намаляваў аўтапартрэт і пачаў дыскусію якраз з нямецкім асацыяльным вобразам рамантыка.

Яго лірычны герой марыць пра Дзеву, у ідэальных рысах якой выразна прасочваецца яго другая жонка Мэры Шэлі, якая была не толькі пісьменніцай, яна магла не толькі слухаць, але і чуць, разумець і нават развіваць ідэі мужа. Адукацыя, якую даў ёй бацька Уільям Годвін (які, дарэчы, жыў шмат гадоў на грошы Персі, але пры гэтым замужжа сваёй дачкі не ўхваліў і на парог іх доўгі час не пускаў — вось вам і вольныя норавы з грамадзянскімі шлюбамі), адукацыя дазволіла гэтай маладой жанчыне прыхіліць да сябе не толькі сяброў Персі, але нават самога Байрана, зачараванага прыгажосцю і розумам юнай Мэры (у іх кампаніі тусіла яшчэ юная Клэр, зводная сястра Мэры, але гэта ўжо проста зусім санта-барбара).

*Смуткуе птушка аб каханні сваім,*
*Адна ў лесе сівым.*
*Крадзецца холад між галін,*
*Ручай зацягнуты лёдам.*

Байран. Так, яны сябравалі. Каталіся разам па Еўропе, калі апынуліся абодва вырваныя з англійскага грамадства. Іх тэкстамі зачытваліся, але ў прыстойныя дамы не пускалі. Яны былі геніямі, але ізгоямі. Тая сіла думкі, тая сіла пачуццяў, тыя ідэі, што лунаці вакол іх, сутыкаліся, нараджаючы літаратурныя шэдэўры — гэта нейкае буйства чалавечага генія на адзінку прасторы.

Пацешна, што пры ўсёй рамантычнасці і свабодалюбстве Шэлі даволі дыдактычны. Вось, напрыклад, радкі з яго паэмы «Паўстанне Ісламу», у якой паэт канструюе ідэальную рэвалюцыю:

*Ты, Роўнасць, найстарэйшая на свеце!*
*Каханне й Мудрасць носяць па планеце,*
*Як верныя нястомныя анёлы,*
*Багацці Розуму — к прыступкам трона...*

З аднаго боку, свабода-роўнасць-братэрства, з другога — Розум вышэй за ўсё, як завяшчалі асветнікі папярэдняга стагоддзя.

Але вяршыняй творчасці лічыцца «Вызвалены Праметэй». Гэта не проста апяванне свабоды, гэта — гімн Паэту, ода прызначэнню яго, выбудаваная ўтопія, якая, вядома, ніколі не надыдзе, але якая так вабіць і зіхаціць недасягальнымі прамянямі чалавечага шчаслівага быцця:

*Паўсюдна будзе вольным чалавек,*
*Брат будзе роўны брату, ўсе перашкоды*
*Расталі між людзьмі; плямён, народаў,*
*Саслоўяў больш няма, зліліся ўсе ў адно,*
*І кожны паўнаўладны над сабою...*

## «Бывай, свабодная стыхія...»

Персі любіў мора. Ён гатовы быў удыхаць яго водар, лашчыцца ў промнях салёнага сонца, гойдацца на хвалях і... зусім не ўмеў плаваць. Вось зусім. Абсалютна. Байран (гэты кульгавы прыгажун заўсёды камплексаваў з-за сваёй хваробы і так сябе натрэніраваў, што, па чутках, мог бы адной левай здаць нарматыў на майстра спорту па плаванні) здзіўляўся і вечна ў іх сумесных марскіх вандроўках быў напружаны, гатовы ў любы момант змагацца са стыхіяй адной рукой, а другой — выцягваць з буры свайго малодшага сябра.

*Не вернецца больш тое, што міне.*
*Гады пасерабрылі і мяне.*
*Перада мной — пахілы*
*Крыж магілы.*

Сам Персі да сівізны не дажыў. У той фатальны дзень у пачатку ліпеня 1822 года Байрана побач не было, і шхуна «Арыэль» (а назва ж якая!), на якой Персі Бішы Шэлі дабіраўся з Пізы назад да жонкі і сына ў Лігурыю, патрапіла ў шторм. Нежывое цела паэта помслівае мора выкінула толькі праз некалькі дзён. Цела яго спальваў Байран. А пахаваны прах у Рыме побач з Кітсам, толік якога быў з Персі нават падчас апошняй сутычкі са «свабоднай стыхіяй».




Спальванне цела Персі Бішы Шэлі. Карціна Луі Эдуарда Фурньe, 1889 г.

# Франкфуртскай кніжнай ярмарцы — 75

З 18 па 22 кастрычніка ў Франкфурце-на-Майне ладзіцца Франкфуртскі кніжны кірмаш, які ў міжнародным выдавецкім асяроддзі аднадушна ўспрымаецца як галоўны штогадовы кніжны форум.

Сёлета кірмаш адкрыўся 75-ы раз. Ганаровым госцем гэтага года стала Славенія, якая з'яўляецца не толькі прывабнай краінай для падарожжаў, але і краінай з даўнімі літаратурнымі традыцыямі, з якімі найперш і будуць знаёміцца госці кніжнага Франкфурта.

У 2024-м ганаровая роля на кірмашы дастанецца Італіі, а годам пазней — Філіпінам.

Франкфуртскі кніжны кірмаш стаў пляцоўкай для міжнароднага гандлю аўтарскімі правамі і ў той жа час дазваляе нямецкамоўнай аўдыторыі і гасцям сустрэцца з аўтарамі. Сярод навоўвядзенняў — зона «Сустрэча з аўтарам», дзе наведвальнікі могуць загадзя запісацца на аўтограф або сэлф.

Самым вядомым госцем кніжнага кірмаша ў 2023 годзе стане брытанска-індыйскі пісьменнік Салман Рушдзі, які атрымаў у 2022 годзе цяжкія раненні ў выніку замаху на забойства. 22 кастрычніка яму будзе ўручана Прэмія свету нямецкага кніжнага гандлю.

На кірмашы прадстаўлены і беларускія кнігі незалежных выдавецтваў.

# Drahoman Prize-2022

Ірына Дмытрышын стала лаўрэаткай прэміі Drahomán Prize-2022, якую кожны год, пачынаючы з 2020-га, уручаюць перакладчыкам з украінскай мовы на мовы свету. Імя лаўрэата прэміі, заснавальнікамі якой з'яўляюцца Украінскі Інстытут, Украінскі ПЭН і Украінскі Інстытут Кнігі, было абвешчана падчас урачыстай цырымоніі, якая ў супрацоўніцтве з праектам Wolne Słowo Gdańsk Miasto Literatury, Kolegium Europy Wschodniej, Stowarzyszenie autorów ZAiKS, Polsko-Amerykańska Fundacja Wolności, Fundacja Liderzy Przemian і Programme Study Tours to Poland адбылася ў польскім горадзе Гданьск.




Ірына Дмытрышын — перакладчыца з украінскай на французскую мову, аўтар шматлікіх публікацый па украінскай літаратуры і гісторыі. Яна адказвае за ўкраіністыку ў Нацыянальным інстытуце ўсходніх моў і цывілізацый (INALCO) у Парыжы, кіруе праектамі, накіраванымі на прасоўванне Украіны, яе культуры і гісторыі ў Заходняй Еўропе. Яна была намінаваная на прэмію з французскім перакладам рамана Сяргія Жадана «Інтэрнат» (Meridian Czernowitz, 2017). «Я люблю, паважаю і захапляюся ўсімі аўтарамі, якіх я перакладала. Але я надзвычай рада, што атрымала ўзнагароду за «Інтэрнат» Сяргія Жадана. Гэта адна з тых знакавых прац, якая рэпрэзентуе Украіну і дазваляе замежнікам паспрабаваць зразумець, што тут адбываецца, чаму і як з гэтага трэба выходзіць. І мы выйдзем, таму што, па словах таго ж Жадана, заўтра мы прачнемся на дзень бліжэй да нашай перамогі», — сказала Ірына Дмытрышын.

Узнагароду лаўрэатцы ўручыў консул Украіны ў Гданьску Аляксандр Плодысты. «Прафесія перакладчыка, на мой погляд, вельмі складаная. Бо яны амбасадары Украіны, праз перакладчыкаў украінская літаратура цячэ ў свет. Менавіта праз іх свет знаёміцца з нашымі класікамі мінулага і сучаснасці. Мы дзякуем лаўрэатам і ўсім, хто спрыяе гэтай справе», — сказаў консул.

Вядучай вечара ў Гданьску была Марыя Гурска, а музычнае суправаджэнне цырымоніі забяспечваў украінскі музыка і кампазітар Гардзій Старух. Ад імя мэра Гданьска Аляксандры Дулькевіч выступіў Анджэй Стэльмасевіч, кіраўнік Камісіі па культуры і прамоцыі горада Гданьска.

Лаўрэатка прэміі атрымала статуэтку, зробленую ўкраінскай скульптаркай Ганнай Звягінцавай, і грашовую прэмію. Дзмітрышын выказала жаданне падзяліць сваю фінансавую ўзнагароду на тры часткі і перадаць яе Сяргію Жадану на ініцыятывы па падтрымцы Украіны.

# Прэмія «Ясная Паляна»

У Бетховенскай зале Вялікага тэатра Расіі назвалі імёны лаўрэатаў XXI-га сезона літаратурнай прэміі «Ясная Паляна», заснаванай музеем-сядзібай Льва Талстога сумесна з кампаніяй Samsung Electronics.

«Ясная Паляна» — найбуйнейшая штогадовая літаратурная ўзнагарода Расіі па памеры грашовага складніка. Сукупны памер прэміяльнага фонду — 6,7 мільёна расійскіх рублёў. У галоўнай намінацыі прэміі — «Сучасная руская проза» — лаўрэат атрымлівае 3 мільёны рублёў, а аўтары, якія ўвайшлі ў кароткі спіс, дзеляць паміж сабой 1 мільён.

Пераможцай у намінацыі «Сучасная руская проза» стала Аляксандра Нікалаенка з раманам «Мурашыны бог». «Мурашыны бог» — гэта і праклён, і ода, і гэта адна з самых непадобных рэчаў, якія выйшлі за апошні час», — прадстаўляючы кнігу Нікалаенка, сказаў Павел Басінскі.

# Прэмія імя Катаева

Узнагарода ўручаецца за лепшае апавяданне. У 2023 годзе яе атрымаў Раман Сенчын. Пісьменнік атрымаў галоўны прыз за апавяданне «Тэмір-арлан» са сваёй кнігі «Прыпынак. Гісторыі, якія не здарыліся».

Літаратурная прэмія імя Катаева заснавана ў 2021 годзе часопісам «Юность» для захавання традыцый малой прозы і прыцягнення ўвагі да сучаснай расійскай літаратуры, якая не зводзіцца выключна да кніжных публікацый раманаў.




Прэмія носіць імя Валянціна Пятровіча Катаева — стваральніка і першага галоўнага рэдактара часопіса «Юность». Лаўрэат трэцяга сезона прэміі Катаева атрымаў 300 тысяч рублёў.

# Лічбавы архіў Васыля Стуса

Ва Украіне алічбавалі творчы архіў пісьменніка і дысідэнта Васіля Стуса — гэта 26 тысячаў сканаў. Праца была праведзена дзякуючы гранту SDK («Стары горад Дом культуры») і Варшаўскага гарадскога ўрада.

Сын пісьменніка Дмытро адзначыў, што пасля пачатку поўнамаштабнага ўварвання бібліятэка паэта апынулася ў адной з «шэрых» зон Кіеўскай вобласці, а таму «засталася толькі маліцца, каб пажары і выбухі мінімальна пашкодзілі будынак, дзе апошнія паўтара дзясятка гадоў захоўваўся архіў паэта». А 10 сакавіка 2022 года ўдалося эвакуяваць найбольш каштоўныя прадметы з архіва ў Кіеў, і будынак бібліятэкі істотна не пацярпеў.

У снежні на сайце «Цэнтр Стуса» можа з'явіцца раздзел «Архівы». Гэта палегчыць доступ да ўнікальных матэрыялаў пісьменніка ўсім жадаючым. Разам з гэтым SDK працуе над перакладам кнігі «Час творчасці» на польскую мову. Яна павінна выйсці ў свет у снежні 2023 года. Над перакладам вершаў працаваў Яцэк Падсядла, над лістамі — Катажына Катыньска, а навуковы ўступ да кнігі напісаў Багдан Такарскі.

# Ваенная антыўтопія — у спісе IBBY

Рэкамендацыйны спіс важных выданняў у галіне літаратуры для дзяцей і моладзі штогод абвяшчае Міжнародная рада па дзіцячай кнізе (IBBY, International Board on Books for Young People). Пачынаючы з 1993-га штогод яна абвяшчае рэкамендацыйны спіс важных выданняў у галіне літаратуры для дзяцей і моладзі. Гэты спіс складаюць супрацоўнікі ды эксперты найбуйнейшай міжнароднай дзіцячай бібліятэкі ў Мюнхене (International Youth Library).




У гэты ганаровы спіс, які атрымаў назву «Белыя вароны», уваходзіць каля 200 кніг прыкладна на 40 мовах з больш чым 50 краінаў свету. У спіс 2023 года ўвайшла кніга Яўгена Рудашэўскага «Звер 44» (Расія).

Паводле анатацыі, у антыўтопіі Яўгена Рудашэўскага гаворка ідзе пра безназоўную краіну, дзе мірнае жыццё ператварылася ў напаўзабыты ўспамін, а надзеі на тое, што можна ўсё пераіначыць, практычна няма. Разбураныя вайной гарады і смерць сталі чымсьці штодзённым. Адны наступаюць — іншыя адыходзяць, а потым яны мяняюцца месцамі. «Звер-44» — гэта страшная машына з антыўтапічнай будучыні, прыфрантавы механізаваны спальвальнік гусенічнага тыпу. Алегорыя бессэнсоўнасці і бесчалавечнасці ўсякай вайны.

# Былыя прафесіі літкласікаў

Якімі працамі павінны былі займацца некаторыя сусветна вядомыя пісьменнікі, перш чым стаць знакамітымі?

Прафесію пісьменніка часта рамантызуюць і падаюць ідэалістычна: маўляў, не трэба ўвесь дзень працаваць у офісе, зацiснутым у рамкі, можна больш свабодна бавіць час, ёсць магчымасць праяўляць творчасць, пісаць тое, што вам падабаецца. Аднак праўда горкая — жыць з пісьма надзвычай цяжкая праца, даводзіцца ўвесь час сутыкацца з фінансавай нестабільнасцю, бясконцымі перфекцыянісцкімі пошукамі, творчымі блокамі, вялікай канкурэнцыяй з сабой ды іншымі пісьменнікамі. Літаратурная гісторыя поўная прыкладаў таго, як сусветна вядомыя пісьменнікі павінны былі ўладкоўвацца на працу, каб звесці канцы з канцамі і аплаціць рахункі, перш чым стаць знакамітымі.

Інтэрнэт-кнігарня knygynpurikti.lt прадставіла самых знакамітых пісьменнікаў свету ды іх «простыя» творы, якія яны паспелі зрабіць, перш чым стаць вядомымі класікамі літаратуры.

**Джордж Оруэл**

Англійскі пісьменнік Джордж Оруэл, сапраўднае імя якога было Эрык Артур Блэр, свыказаўся пра творчасць пісьменніка: «гэта жудасная і знясільваючая барацьба, падобная да прыступу пакутлівай хваробы. Чалавек ніколі не стаў бы займацца гэтай прафесіяй, калі б ім не кіраваў нейкі дэман, якому ён не мог бы ні супрацьстаяць, ні зразумець». Перш чым падарыць свету творы «Ферма жывёл» і «1984», якія і сёння ахвотна чытаюцца, Дж. Оруэл працаваў... паліцэйскім.

Пасля заканчэння школы, ва ўзросце дзевятнаццаці гадоў, ён паступіў у індыйскую імператарскую паліцыю ў Бірме (цяпер М'янма). За час сваёй паліцэйскай кар'еры яму было даручана наглядаць за 200 тысячамі чалавек. Дзеля бяспекі людзей давялося працаваць у турме. Працуючы паліцэйскім, Дж. Оруэл набыў імідж рэнегата: ён шмат часу праводзіў у адзіноце, чытаючы, не ўступаючы ў размовы з калегамі. Пасля амаль шасці гадоў службы брытанскі класік пасля ўспышкі ліхаманкі пакінуў сваю пасаду ў Бірме і вырашыў засяродзіцца на пісьменніцкай кар'еры.

Свой досвед працы ў паліцыі аўтар апісаў у рамане «Бірманскія дні» і эсэ «Стрэл у слана».

**Артур Конан Дойл**

«Бацька» Шэрлака Холмса, як і яго напарнік Джон Ватсан, быў лекарам. Перш чым праславіцца як пісьменнік, шатландзец Артур Конан Дойл вучыўся ў Эдынбургскай медыцынскай школе, дзе атрымаў кваліфікацыю хірурга. Ён служыў медыкам падчас англа-бурскай вайны ў Паўднёвай Афрыцы, а пазней зацікавіўся лячэннем вачэй і вывучаў афтальмалогію ў Вене. На жаль, ён кінуў вучобу праз некалькі месяцаў, бо палічыў нямецкія медыцынскія тэрміны занадта складанымі. Аднак мару стаць афтальмолагам ён не пакідаў — з'ехаў у Францыю і вучыўся там у самага вядомага афтальмолага Парыжа. Вярнуўшыся пасля вучобы ў Лондан, А. К. Дойл адкрыў уласны кабінет афтальмолага, але не прымаў пацыентаў і вырашыў адкласці сваю медыцынскую кар'еру.

Пісьменніцтва ён адкрыў для сябе яшчэ падчас вучобы ў медінстытуце, таму пасля няўдалай кар'еры афтальмолага вярнуўся да творчасці і пачаў пісаць дэтэктывы, якія сталі легендай і праславілі яго.

Дарэчы, знакаміты герой кніг будучага пісьменніка нарадзіўся менавіта ў час яго медыцынскіх заняткаў: настаўнік А. К. Дойла доктар Джозэф Бэл быў выключна праніклівы і лагічны, таму мог вызначыць інфармацыю аб працы, дзейнасці і звычках пацыента, проста назіраючы за ім. Пазней ён стаў прататыпам Шэрлака Холмса.

**Франц Кафка**

Аўстрыйскі класік Франц Кафка, які пісаў на тэмы экзістэнцыяльнай адзіноты, бунту і абсурду, абраў прафесію страхавальніка, каб аплаціць свае рахункі. Нягледзячы на тое, што ён пачаў пісаць яшчэ ў школе, Ф. Кафка вырашыў вывучаць хімію ва ўніверсітэце, якую потым змяніў на права. Пасля абароны доктарскай дысертацыі Ф. Кафка ўладкаваўся на працу ў італьянскую страхавую кампанію, дзе здолеў прапрацаваць толькі год. У будучага пісьменніка быў непрымальны працоўны графік: ён працаваў ноччу, а пасля працы ў яго зусім не заставалася сіл для творчасці...

**Стывен Кінг**

Кароль гісторый жахаў Стывен Кінг — выдатны прыклад таго, як можна падняцца вельмі высока, калі не здавацца ды ісці за сваёй марай. Аўтар жахлівага трылера «Зззянне» і многіх іншых паспяховых раманаў жыў у крайняй галечы, перш чым стаць сусветна вядомым пісьменнікам, — працаваў у пральні і прыбіральшчыкам у школе, каб зводзіць канцы з канцамі. Аднак любоў да пісьменніцтва, якая нарадзілася ў дзяцінстве, прынесла пісьменніку сусветную вядомасць. Па словах аўтара, першы апублікаваны твор «Кегё» быў навеяны яго першымі творчымі спробамі.